ШТОТЫДНЁВАЯ ГАЗЕТА ДЛЯ СУАЙЧЫННІКАЎ ЗА МЕЖАМІ БАЦЬКАЎШЧЫНЫ

# Голас Радзімы

№ 49 (2347) 9 снежня 1993 г. Выдаецца з 1955 г. Цана 10 рублёў.

## БЕЛАРУСЫ НА ГЭТЫМ І ТЫМ БАКУ МЯЖЫ

# "УСЛОВИЯ" КОЖНЫ СТВАРАЕ САБЕ САМ

**З прафесарам Аляксандрам БАРШЧЭЎСКІМ гутарыць рэдактар "Голасу Радзімы" Вацлаў МАЦКЕВІЧ.**

Думаю, што Аляксандра Баршчэўскага не трэба прадстаўляць чытачу. Яго добра ведаюць і ў Польшчы, і ў Беларусі. Вядомы ён і нашым землякам у Канадзе, ЗША, Англіі. Мяне асабіста ды і нашага чатача таксама заўсёды цікавіла стаўленне гэтага дасцэлы рад цікавых дакладаў, што ахоплівалі розныя аспекты Рэфармацыі на нашых землях. Я асабіста гаварыў аб спецыфіцы творчасці пісьменнікаў рэфарматарскага напрамку -- Сымона Буднага, Фёдара Еўлашэўскага і Васіля Цяпінскага. Ну і ўдзельнічаў пазаўчора ў другой канферэнцыі, якая адбылася у Наваповедчанага грамадскага дзеяча, беларуса да мозга касцей, да той ці іншай праблемы. На гэты раз я чакаў спаткання з прафесарам, каб пагутарыць з ім зноў жа... пра беларусаў тут і там, у Беларусі і ў Польшчы.

**-- Не называю вас госцем, бо ваша постаць ужо ўпісалася, бадай, арганічна ў ландшафт мінскіх вуліц. Вы часта абіваеце "высокія" ўрадавыя парогі ў сталіцы, без вас, можна сказаць, не абыходзіцца ні адна навуковая канферэнцыя. Які клопат зноў прывёў вас у Беларусь!**

-- На гэты раз я прыехаў сюды з нагоды дзвюх канферэнцый: першая была прысвечана 440-й гадавіне з пачатку Рэфармацыі ў Беларусі. Як вядома, Рэфармацыя адыграла вельмі важную, істотную ролю ў нашай гісторыі, перадусім -- у беларускай культуры. Але ніколі на тэрыторыі Беларусі такая канферэнцыя не праводзілася. І вось -- нарэшце! Былі прадстаўлены лацку з нагоды 110-й гадавіны з дня нараджэння Вацлава Ластоўскага. На працягу амаль 65 гадоў прозвішча Ластоўскага замоўчвалася. А тым часам гэта была постаць гераічная -- постаць выдатнага беларускага гісторыка, даследчыка беларускай літаратуры, пісьмовасці, а таксама зусім добрага паэта, празаіка і эсэіста. Для мяне гэта канферэнцыя -- падзея асаблівая, таму што я ніколі ні ў Полацку, ні ў Наваполацку не быў. Першы раз быў у царкве Ефрасінні Полацкай і ў яе келлі.

**-- Дык гэта ж для вас, бадай, гістарычная паездка ў Полацк... Падзея жыцця.**

-- Гэта келля робіць надзвычайнае ўражанне! Больш-менш можа тры квадратныя метры, трэба прайсці 21 прыступку вельмі вузенькім праходам калідора.

(Заканчэнне на 3-й стар.).

# ІМЕМ АЙЦА І СЫНА

## РОЗДУМ НАД АПОВЕСЦЮ

Існуюць два віды творчага імпульсу, якія прыводзяць да ўзнікнення твора. Адзін з гэтых імпульсаў -- Злосць, другі -- Боль.

І ў адным, і ў другім выпадку -- як вынік -- мы маем у наяўнасці мастацкі твор. Але ўздзеянне ад гэтых твораў -- рознае.

Там, дзе Твор нараджаецца праз Злосць, -- нас нібыта дражняць, імкнуцца зачапіць, спакушаюць наш душэўны спакой, жадаючы выклікаць ці то абурэнне тым, пра што гаворыцца ў творы, ці хіба гэткую самую злосць, якая вяла аўтара да мэты: выказаць свае думкі і пачуцці.

Тое, што творчым штуршком з'яўляецца менавіта злосць (у сэнсе здаровай творчай злосці), зусім не азначае, што твор, заснаваны на ёй, -- не таленавіты. Здараецца, што ён выходзіць ярчэйшы і больш эмацыянальны, чым калі б ён пісаўся без злосці. І -- амаль заўжды -- для нас, чытачоў, такі твор як нейкі рэцэпт, падказка: што рабіць у той ці іншы момант, як паставіцца да той ці іншай з'явы або праблемы.

Але, як і ўсе радыкальныя лекі (лекі, якія паспяхова ліквідуюць пераважна знешнія прыкметы хваробы, а не вылечваюць яе цалкам), творы гэткія -- пры ўсіх іхніх дадатных якасцях -- творы нейкага даволі канкрэтнага прамежку часу, і вартасць іх у тым, што яны, хай і часткова, але прыпыняюць развіццё "хваробы", пад якую падпала грамадства, і не дазваляюць ёй зрабіцца канчаткова невылечнай.

У другім выпадку -- калі імпульсам да ўзнікнення Твора з'яўляецца Боль (і не толькі аўтарскі, а, бадай, нармальны чалавечы боль, уласцівы нат і не творчаму чалавеку), -- уздзеянне ад такога твора зусім іншае: ён спакваля пранікае ў тваю душу, займае там усё больш месца і прыводзіць нарэшце да таго, што мы ўжо не можам адчуваць ці думаць інакш, чым адчувае і думае аўтар. Мы зліваемся з ім (ці мо ён з намі?), свядомасць наша (а лепей -- сумленне!) прачынаецца (калі спала дагэтуль), і -- незаўважна для нас саміх -- з дробных, сляпых, якія не адрозніш адна ад другой часцінак сусвету, надзеленых хіба толькі зародкамі розуму і чалавечых пачуццяў, мы ператвараемся ў нешта большае: ператвараемся ў Асобаў, якія ведаюць, нашто яны жывуць і што ім рабіць далей.

(Заканчэнне на 6-7-й стар.).

## СВЯТКАВАННЕ 170-х УГОДКАЎ З ДНЯ НАРАДЖЭННЯ Паўла ШПІЛЕЎСКАГА

# ЛЮБА... ЛЮБАНЬ!

Дзіўныя справы адбываюцца на нашай Беларусі. Як ва ўжо барадатым анекдоце пра перабудову: нібы ў тайзе -- уверсе шум, а ўнізе ціха. Так нам суцешна, цёпла і ў той жа час весела, радасна, утульна было на Любаншчыне 13 і 14 лістапада, дзе, як ніколі, прыгожа святкаваліся 170-я ўгодкі з дня нараджэння знакамітага ў сярэдзіне XIX стагоддзя ў Расіі, але па нашай дрэннай нацыянальнай традыцыі забытага на радзімай Беларусі Паўла Шпілеўскага. У той час, як у парламенце дыскутуецца паварот да бальшавіцкай сімволікі, вульгарна-сацыялагічнай тэорыі, у вёсках і сёлах, раёнах і рэгіёнах расце прыгожая хваля нацыянальнай годнасці, свядомасці на аснове павароту да векавой, у першую чаргу, фальклорнай традыцыі. Беларуская вёска, якая захавала ў сваёй падсвядомасці нацыянальную самабытнасць, непаўторныя абрады Стралы, Куста, Жаніцьбы Цярэшкі, Жаніцьбы Коміна, Валачобніцтва, Юр'я, Жніва, Дзядоў, годна выпраствае свае песенныя крылы і імкнецца, у адрозненне ад горада, які пераважна толькі лементуе на гэту тэму, зрабіць явай святую справу нацыянальнага Адраджэння. Бог у помач табе, беларуская вёска! Добрага здароўя такім самаахвярным людзям, як танютная Галіна Жураўская ў аддзеле культуры Любані, якая ўзяла на свае худзенькія плечы вялікую справу -- адрадзіць на радзіме выдатнае імя вернага сына беларускага народа П. Шпілеўскага.

(Заканчэнне на 6-7-й стар.).





**На радзіме Паўла Шпілеўскага ў вёсцы Шыпілавічы нядаўна адбыліся ўрачыстасці, прысвечаныя 170-годдзю з дня нараджэння выдатнага фальклорыста. "Па-Шпілеўскаму" на свяце панавала песенная, танцавальна-карагодная атмасфера рамантычнай узнёсласці, натуральнай прыгажосці і радасці.**

**НА ЗДЫМКАХ: так сустракалі гасцей у Любані; "поезд Шпілеўскага".**

**Фота В. БАРЫСАВА.**

## ПАДЗЕІ ЛЮДЗІ ФАКТЫ

*ЗНОЎ АБ МОВЕ*

### ГАНЬБІМ САМІ СЯБЕ

**У нас усё не як у людзей. Пацвярджэннем гэтай ментальнасці беларусаў стала абмеркаванне 7-га артыкула праекта Канстытуцыі, які надае нашай мове статус дзяржаўнай. Абмяркоўваючы яго, дэпутаты Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь, якія называюць сябе яшчэ і народнымі, не прынялі такі важны для нацыі артыкул, адправіўшы яго на дапрацоўку. Каб яго прыняць, патрэбна была канстытуцыйная большасць -- 230 галасоў, а за дзяржаўнасць беларускай мовы прагаласавалі толькі 199 дэпутатаў.**

**Зноў разгарэліся дэбаты вакол таго, якая мова патрэбна беларусам. Зноў нашы дэпутаты імкнуцца ўзняць да рангу афіцыйнай, а значыць дзяржаўнай, рускую мову. "Гэта трэба зрабіць таму, што 90 працэнтаў насельніцтва ў нас размаўляе па-руску", -- даводзіў дэпутат У.Грыбанаў. "Руская мова -- гэта хвароба, якая занесена ў Беларусь, і ад яе трэба вылечыцца", -- такое рэзюме дэпутата С.Давідовіча.**

**Прыкра і сорамна перад усім светам.**

*ДУХОЎНЫ ГЕНАЦЫД*

### ГІСТОРЫЯ НЕ ДАРУЕ

**Мінская гарадская Рада Таварыства беларускай мовы імя Ф.Скарыны ўважліва сочыць за работай сесіі Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь. 30 лістапада на сваім пасяджэнні Рада абмеркавала ход дыскусіі па артыкулах аб дзяржаўнасці беларускай мовы і аб дзяржаўнай сімволіцы нашай роднай Беларусі. Мы абураны ходам абмеркавання гэтых артыкулаў. Горка і прыкра бачыць сярод народных дэпутатаў Вярхоўнага Савета нашай незалежнай дзяржавы сучасных мураў'ёвых і суворавых. Мы хочам зразумець пазіцыю і матывы тых дэпутатаў, якія імкнуцца пазбавіць беларускую нацыю асновы асноў жыццядзейнасці і натуральнага развіцця. Шчыра кажам вам, што ў здаровым агульначалавечым сэнсе зразумець прыхаваны духоўны генацыд для беларускай нацыі не можам.**

**Вы часта на трыбуне і каля мікрафонаў гаворыце правільныя словы аб тым, што хочаце пабудовы свабоднай дзяржавы Беларусь, далучэння яе да супольнасці краін свету. І разам з тым хочаце канчаткова пазбавіць беларусаў іх Боскай мовы, якую глумілі каланізатары на працягу 300 апошніх год. Вашай пазіцыі па гэтых пытаннях няма апраўдання, і ні Бог, ні гісторыя вам не даруе. Вашы прозвішчы вы ўласнай рукой сёння пішаце ў гісторыю беларускай нацыі, але якім колерам, з якім знакам! Спадзяёмся на ваш інтэлект і разважлівасць. Разам з тым мы патрабуем паважлівага стаўлення да права кожнага народа ствараць, развіваць роднамоўнае інфармацыйнае асяроддзе і жыць у ім. Уявіце сабе, што хтосьці адабраў у японцаў іх родную японскую мову альбо ў рускіх іх расійскую мову. Ці маглі б гэтыя народы, як і іншыя, мець тое, што яны маюць, чым здзіўляюць народы іншых краін!! Дык чаму ж для беларускага народа некаторыя яго народныя дэпутаты імкнуцца ў Канстытуцыю закласці духоўны генацыд!**

**Мы спадзяёмся на ваш цвярозы розум і ўдумлівы, адказны падыход пры прыняцці новай Канстытуцыі Беларусі. Упэўнены, што многія з вас хочуць актыўна ўдзельнічаць не толькі ў прыняцці новай Канстытуцыі, але і надалей браць удзел у палітычным жыцці Рэспублікі Беларусь у бліжэйшыя гады.**

**Ад імя Мінскай гарадской Рады Таварыства беларускай мовы імя Ф.Скарыны яе старшыня прафесар Мікола САВІЦКІ.**

30 лістапада 1993 г.

*УНІВЕРСАЛЬНАЯ СЕЯЛКА*

**На выпуск сучаснай сельскагаспадарчай тэхнікі для калектыўных гаспадарк і фермераў пераарыентавалася фірма "Лідаграпраммаш". Яшчэ нядаўна прадпрыемства займалася ў асноўным рамонтам аўтамабіляў. Цяпер жа гэты від работ складае толькі каля 20 працэнтаў ад агульных аб'ёмаў вытворчасці. Галоўная ж увага надаецца асваенню новай тэхнікі.**

**Цяпер "Лідаграпраммаш" пачаў выпуск універсальнай сеялкі. Дыяпазон яе дзеяння -- ад мікранасення да буйнога галанскага бобу. Канструкцыя агрэгата гарантуе дакладны, раўнамерны пасеў. Аналага сеялцы ў СНД няма.**

**Пакуль на фірме выпускаецца агрэгат з захватам 6 метраў, які можа выкарыстоўвацца, галоўным чынам, буйнымі гаспадаркамі. Але ўжо падрыхтаваны доследныя ўзоры сеялак і для фермерскіх участкаў з шырынёй захопу 3 метры.**

**Выпуск тэхнікі для фермерскіх гаспадарак з'яўляецца прыярытэтным напрамкам у дзейнасці фірмы. Тут ужо выраблены раскідвальнік арганічных угнаенняў, бульбаўборачны камбайн, прычэп для трактара. Усе гэтыя агрэгаты могуць выкарыстоўвацца з трактарам тыпу Т-25.**



**НА ЗДЫМКУ: слесары механазборачных работ Казімір ТАРАТУТА і Валерый КУРОЎСКІ на зборцы універсальнай сеялкі.**

*ЗВЕРАФЕРМА*



**Прыбытковае прадпрыемства стварылі працаўнікі калгаса імя Гастэлы Карэліцкага раёна. У кампаньёны яны ўзялі падмаскоўную фірму па гадоўлі пушных звяркоў "Крона". На пяці гектарах няўдобіц калгас пабудаваў памяшканні зверафермы, а расіяне завезлі жывёл. Цяпер тут знаходзіцца 25 тысяч галоў норкі, тхара, фрыдкі. Шкуркі выгадаваных на мясцовых кармах звяркоў адпраўляюць у Падмаскоўе, дзе іх апрацоўваюць, а потым рэалізуюць на аўкцыёнах. Прыбытак жа дзеліцца папалам.**

**НА ЗДЫМКУ: калгасныя звераводы Марына СЯЧКО і Марына САК з выгадаванымі тхарамі.**

*"Праект новай Канстытуцыі прадугледжвае мадэль прэзідэнцкай рэспублікі і, нягледзячы на існуючыя неадназначныя ацэнкі інстытута прэзідэнцтва ў краінах блізкага і далёкага замежжа, пераканаты ў тым, што моцная прэзідэнцкая ўлада мае ў Беларусі сур"ёзную перспектыву. У цяперашніх умовах крызісу крайне важна стварыць аўтарытэтную, дзеяздольную, моцную, стабільную выканаўчую ўладу ў асобе прэзідэнта, кіраўніка дзяржавы і кіраўніка ўрада, для пераадолення гэтага крызісу, ажыццяўлення карэнных рэформ, паляпшэння ўмоў жыцця народа, забеспячэння правоў чалавека і ў перспектыве вывядзення рэспублікі на ўзровень развітых краін. Без прэзідэнцкай рэспублікі Беларусі пагражаюць вялікія ўзрушэнні, небяспека зваліцца ў бездань. У нас не зможа цяпер працаваць парламенцкая рэспубліка, таму што неразвітасць партыйнай сістэмы стварае няўстойлівасць для ўрада, сфарміраванага няўстойлівай большасцю парламента".*

*(Са Звароту каардынацыйнага савета аб"яднання народных дэпутатаў "Беларусь" у Вярхоўным Савеце Рэспублікі Беларусь да народных дэпутатаў Рэспублікі Беларусь).*

*У ПАРЛАМЕНЦКАЙ АПАЗІЦЫІ*

### НЕ БАЧЫМ СЭНСУ

**Дэпутаты апазіцыі Народнага фронта і іншыя дэмакратычныя дэпутаты выступілі з заявай, у якой аб"явілі, што лічаць далейшую работу Вярхоўнага Савета бесперспектыўнай, непатрэбнай для беларускай дзяржавы. Да такой высновы яны прыйшлі, аналізуючы два тыдні абмеркавання дзейнасці ўрада і пошукі шляхоў выхаду з крызісу, якія па сутнасці нічога не далі. Апазіцыя па-ранейшаму патрабуе адстаўкі ўрада В.Кебіча.**

**У сувязі з гэтым дэпутаты апазіцыі і тыя, хто падзяляе іх ацэнку, дадзеную цяперашняй сесіі, не бачаць сэнсу ў пасяджэннях Вярхоўнага Савета, акрамя тых, дзе будуць разглядацца эканамічныя і палітычныя пытанні, якія ўплываюць на лёс Беларусі і якія тычацца змен інстытутаў улады нашай дзяржавы.**

*ШТО ДЗЕЕЦЦА Ў ЛІТВЕ?*

### ПАБІТЫ БЕЛАРУСКІ АКТЫВІСТ

**У Шальчынінкаі быў жорстка пабіты старшыня мясцовай беларускай арганізацыі Пётр Малафей. Невядомыя злачынцы напалі на яго ва ўласнай кватэры. Пацярпеўшы знаходзіцца ў бальніцы, пачата следства.**

**"Злачынцы пакінулі ахвяру ў непрытомным стане, але нічога з дому не ўзялі, -- сказаў карэспандэнту БелаПАН старшыня Таварыства беларускай культуры ў Літве Хведар Нюнька. -- Гэта наводзіць на думку аб палітычным характары злачынства".**

**Апошнім часам П. Малафей дабіўся памяшкання для беларускага клуба і шукаў сродкі на яго рамонт.**

*КРЫМІНАЛЬНАЯ ХРОНІКА*

### УЗОРНЫ БАТАЛЬЁН

**Па падазрэнню ў крадзяжы дэталей, што ўтрымліваюць золата і іншыя каштоўныя металы, арыштаваны 17 ваеннаслужачых батальёна абслугоўвання аднаго з авіяпалкоў, дыслацыраванага ў Баранавічах. Бравыя салдаты разукамплектавалі некалькі баявых самалётаў СУ-27. У ходзе вобыскаў канфіскавана выкрадзеных матэрыяльных каштоўнасцей на суму больш 30 мільёнаў рублёў.**

*ПРЭЗЕНТАЦЫЯ*

### "ПАЛЕСКІ СМУТАК"

**Прэзентацыя новага фонду "Палескі смутак" адбылася ў дзень 50-годдзя вызвалення Хойніцкага раёна ад фашысцкіх захопнікаў. Паэт Мікола Мятліцкі -- прэзідэнт і заснавальнік фонду -- адкрыў яго ў сваёй роднай вёсцы Бабчын. Мэта новай грамадскай арганізацыі -- служыць захаванню культурнай памяці пакінутых тэрыторый. Трохі больш за два гады Гомельшчына была пад акупацыяй фашысцкай і вось ужо восьмы год -- пад ядзернай.**

*ВЕСТКІ АДУСЮЛЬ*

НА ЧАТЫРОХДЗЁННЫ рабочы тыдзень перайшоў Мінскі трактарны завод. Прычына -- адсутнасць матэрыялаў і камплектуючых дэталей. А іх нельга купіць у Расіі, бо няма расійскіх рублёў.

РАЁННАЯ арганізацыя Партыі камуністаў Беларусі ў Мёрах атрымала статус юрыдычнай асобы. Рашэннем Мёрскага райвыканкома яна пастаўлена на ўлік.

ВЫПУШЧАНЫ першыя экземпляры нацыянальнага атэстата прафесара. Цёмна-вішнёвага колеру, на беларускай мове, набраныя арыгінальным "скарынінскім" шрыфтам, яны ўручаны тым, хто іх заслужыў, ва ўрачыстай атмасферы ў Савеце Міністраў Беларусі.

ІВАНАЎСКІ райвыканком Брэсцкай вобласці прыняў рашэнне вывучыць магчымасць аднаўлення сядзібы вядомага мастака-графіка, кампазітара і літаратара Напалеона Орды і адкрыць мемарыяльны музей свайго выдатнага земляка.

ПАЧАЛІ зборку першых трох пасажырскіх аўтобусаў на Лідскім доследным заводзе "Нёман". "ЛІАЗ"ы мяркуецца ў будучыні паставіць на канвеер. Магчыма, яны будуць лепшыя за расійскія аўтобусы з Лікіна, вядомыя пад гэтай жа маркай.

62 ТЫСЯЧЫ 360 нямецкіх марак прынёс мінулы паляўнічы сезон у казну Беларусі. Камерцыйнае паляванне дае неблагі прыбытак. За аднаго забітага дзіка замежныя госці плацяць 1 500 марак, а за лася -- 2 500. Прычым мяса звяроў застаецца нам, замежныя паляўнічыя забіраюць з сабой толькі рогі і іклы.

ВЫМУШАНЫ паміраць у адзіноце каля 30 тысяч састарэлых людзей у Беларусі. Яны, па звестках Чырвонага Крыжа, ужо ні на кога не спадзяюцца. Здараецца, што нябожчыкаў знаходзяць праз тыдзень пасля смерці, якая нярэдка наступае ад голаду.

# "УСЛОВИЯ" КОЖНЫ СТВАРАЕ САБЕ САМ

(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.).

Вось там Ефрасіння Полацкая на працягу многіх гадоў працавала, перапісвала кнігі і думала аб сваім народзе. І гэта пакінула глыбокае ўражанне ў маім сэрцы. Думаю, што недзе гэта адзавецца і ў маёй творчасці таксама.

**-- Раз ужо гаворка зайшла пра самае даўняе і можа самае для нас, беларусаў, сакраментальнае -- пра Ефрасінню Полацкую, якая сапраўды шмат зрабіла ў сваім часе для свайго народа, працавала з дбаннем аб народзе, то як бы, на ваша ўяўленне, яна цяпер пaглядзела на гэты народ, які ў такім незайздросным стане, калі беларусу трэба даводзіць, што ён беларус!**

-- Мне здаецца, што Ефрасіння Полацкая была чалавекам аднаго мыслення і адной прыналежнасці, адной рэлігійнай канфесіі: праваслаўнай. У яе часах, як вядома, Беларусь увогуле была праваслаўнай. Першая нездаволенасць яе была б мусіць з таго, што Беларусь не ёсць сёння аднарэлігійная, але шматканфесіянальная і што ў сувязі з гэтым вельмі многа непаразуменняў і канфліктаў паміж паасобнымі рэлігійнымі плынямі. Думаю, што не здавальняў бы яе ўзровень жыцця і тыя праблемы, з якімі сёння маем дачыненне. Напэўна шчаслівым не быў народ таксама і ў XII стагоддзі, не было і тады дабрабыту, але ў сэнсе нейкай стабільнасці тыя часы пераважалі над часамі нашымі. Хаос, які між іншым выступае сёння ў цэнах, нестабільнасць матэрыяльнага ўзроўню -- гэта пэўна такая з"ява, якая не магла б падабацца беларускай манашцы з XII стагоддзя...

**-- Ну, гэта матэрыяльны бок, сацыяльны, а калі ўзяць духоўны!**

-- На маю думку, Ефрасінні Полацкай як вернай дачцэ беларускай зямлі і беларускага народа, хаця гэты тэрмін тады яшчэ не ўжываўся, многае магло б і спадабацца. Напрыклад, тое, што духоўныя сілы нашай нацыі нарэшце стараюцца служыць гэтай нацыі. Не ўсё атрымліваецца добра, многае робіцца непаслядоўна, духоўны стан нашага народа яшчэ далёкі ад нармальнага. Але ўсё ж такі маем дачыненне з павольным адраджэннем духоўнасці. Дык вось, калі адкінуць усе палітычныя справы, а гаварыць толькі і выключна аб духоўнасці, усё роўна, ці яна выяўляецца ў мастацкай творчасці, ці ў літаратурнай творчасці, ці ў рэлігійнасці, думаю, што многае з гэтага стану Ефрасінні Полацкай спадабалася б.

**-- Нават дзіўна чуць такі адказ. Нам самім менш спадабалася б...**

-- Мне таксама шмат чаго не падабаецца, таму што я маю іншы маштаб параўнанняў. Мне хацелася б, каб гэты стан рэчаў, які ёсць сёння ў беларускай духоўнасці, быў іншы. Але трэба сказаць, што пэўны мінімальны прагрэс ёсць. Прывяду прыклад. Я ехаў з Варшавы ў Мінск аўтобусам з групай беларускіх гандляроў. Яны ўсе пагалоўна гаварылі па-руску. Адзіны ў гэтай групе гаварыў па-беларуску -- я. У пэўным моманце я без злосці сказаў ім:

"Вы -- адшчапенцы і здраднікі, таму што вы выракліся сваёй мовы". Запанавала ў аўтобусе абсалютная цішыня. Ніхто не зарэагаваў аніводным словам, ані -- за, ані -- супраць. Але я адчуў, што ўдарыў у тую струну, якая недзе глыбока ў сэрцы ў іх ёсць. Калі б я нешта такое сказаў гады два таму назад, я ўпэўнены, што мяне назвалі б экстрэмістам, нацыяналістам, фашыстам, агентам імперыялістычным і кімсьці яшчэ іншым. Некаторыя пачалі са мной размаўляць па-беларуску, хаця ім гэта цяжка давалася. Значыць, нешта зварухнулася ў людзях.

**-- Як вы глядзіце на такую з"яву, як супраціўленне, прычым з кожным днём усё большае, абсалютнаму падпарадкаванню Закону аб дзяржаўнай мове! У прэсе ўсё часцей -- у радках і паміж радкамі -- настырнае патрабаванне двухмоўя... З"едлівыя рэплікі ў адрас "матчынай мовы"...**

-- Гэта для мяне ўвогуле страшэнная з"ява, такой сітуацыі ні ў адной нармальнай дзяржаве няма. Я гэтага не разумею, таксама, як не разумею прынцыпу добраахвотнасці вывучэння беларускай мовы ў школах. Лічу, што вялікі грэх тут высокапастаўленых чыноўнікаў. Калі я, скажам, званю да намесніка прэм"ера, які займаецца пытаннямі культуры і асветы, і напорыста з чыноўнікамі яго размаўляю па-беларуску, а яны мне напорыста адказваюць толькі па-руску, то гэта лічу справай ненармальнай. Я думаю, што якраз чыноўніцтва магло б адыграць аграмадную ролю ў развіцці беларускай мовы і ўкараненні яе як дзяржаўнай. Высокапастаўленае чыноўніцтва. Я ўпэўнены, калі б міністр, начальнік дэпартамента, дырэктар размаўлялі па-беларуску, то напэўна і ўсе іх падначаленыя на працягу трох-чатырох месяцаў загаварылі б па-беларуску.

**-- Калі перафразіраваць вядомую прыказку, то можна было б сказаць: усё пачынаецца з галавы.**

-- Калі трымацца гэтай прыказкі -- рыба пачынае хварэць ад галавы, то і павінна здаравець ад галавы. А не ад хваста.

**-- Можа ад гэтых спраў, якія баляць і вам, беларусам блізкага замежжа, як мы вас цяпер называем, і нам, хто на мацерыку беларускім, перакінемся да спраў беларусаў у Польшчы. Нас цікавіць, і вельмі, што там адбываецца! Да нас даходзяць трывожныя чуткі, што беларусы, як заўсёды, не ўмеюць жыць па-людску і гуртавацца ў імя нечага высокага і агульнага. Ці можа мы памыляемся! Розныя грамадскія плыні, розныя арганізацыі, аб"яднанні падазрона пастаўлены адна да адной.**

-- У вас часта скардзяцца: "Я не ведаю беларускай мовы таму, што " не было условий". Усім вядома, якое было стаўленне да беларускай мовы. Але ўсё ж такі, калі разабрацца, то лжэ той, хто гаворыць, што ў яго "не было условий", каб ведаць родную мову. Я асабіста, па сутнасці, не вучыўся ў беларускай школе, нарадзіўся і жыву ў Польшчы. Вучыўся ў беларускай савецкай школе з 1939 па 1941 год, другі і трэці клас. У часе акупацыі ўвогуле не вучыўся, а пасля вайны беларускай школы ўжо не было. Жыву апошнія 43 гады ў Любліне, Лодзі, у Варшаве, у гарадах тыпова польскіх. І я мову вывучыў, таму што "условия" стварыў сам для сябе: хацеў. Як гэта зрабіць? Па-першае, чытаць, па-другое, думаць, а па-трэцяе, дома гаварыць па-беларуску. Я дома сёння гавару па-беларуску. І ніякі я не герой і не падзвіжнік, а толькі ўважаю за абавязак ведаць беларускую мову. Вельмі часта ад вас людзі прыязджаюць да нас і захапляюцца: у вас, на Беласточчыне, маўляў, усё ў парадку -- мова захавана і амаль што не квітнее, многа беларускіх імпрэзаў і г.д. Я такія пахвалы прымаю з удзячнасцю, але асцярожна. Гэта можа так выглядаць здалёк. Таксама, як, скажам, прыязджаюць людзі ад вас, глядзяць на нашы вельмі багатыя магазіны, і яны пераканаы, што ў Польшчы дасканала ўсім людзям жывецца.

**-- Погляд з турысцкага аўтобуса... Мімалётам...**

-- Так, гэта толькі фасад, і не заўсёды ён адпавядае характару жыцця, якое ёсць па-за гэтым фасадам. У Польшчы таксама маем дачыненне і то са шпаркім ходам асіміляцыі беларусаў. Сітуацыя ёсць такая, што сёння на ўсёй тэрыторыі Усходняй Беласточчыны, пачынаючы ад Беластока, а канчаючы прыгранічнымі вёскамі ў Белавежы, скажам, да малых дзетак гавораць па-польску. Праўда, гэтае дзіця часта пасля, як дарасце, асягне 5 гадоў і выйдзе на вуліцу, навучыцца беларускай мове.

Але не ўсе дзеці навучацца. Так што і не ўсе пасля пойдуць у школу. Чаму не ўсе дзеці ідуць у школу і вывучаюць беларускую мову? Матыў адзін і той самы: а якая мне з гэтага карысць? І нельга да гэтага абыякава адносіцца, таму што сапраўды ў жыцці чалавека мова ёсць вялікай карысцю. Для француза, немца, англічаніна -- для кожнай іншай нацыі. Драма Беларусі заключаецца ў тым, што яна пазбавіла мову аспекту карысці: гэтая мова не была патрэбна. У беларусаў Польшчы -- зразумела, там гэты аспект карысці адпадае, бо маем дачыненне з меншасцю.

Але нягледзячы на тое, што можам, тое робім. Ёсць фактам, што ў Польшчы ўжо 37 гадоў існуе кафедра беларускай філалогіі Варшаўскага універсітэта. У апошнім часе ўзнікла беларуская філалогія ў Люблінскім універсітэце і Катавіцкім універсітэце. І ў другім Люблінскім універсітэце імя Марыі Складоўскай-Кюры ўзнікла беларуская філалогія -- 25 чалавек прынялі. І ў Беластоку адкрылася кафедра беларускай філалогіі. Так што маем дачыненне з новай з"явай...

**-- Даруйце, што перабіваю, але атрымліваецца нешта нелагічнае: з аднаго боку, працэс асіміляцыі беларусаў, а з другога, нейкая ўспышка цікавасці да беларускай мовы!**

-- Няма ніякай алагічнасці. Сапраўды, зацікаўленне беларускай філалогіяй з боку беларусаў малее. Трыццаць гадоў таму назад прыходзіла на нашу філалогію прыблізна 80 працэнтаў беларусаў і 20 -- палякаў, а цяпер наадварот.

**-- Значыць, беларусістыкай больш цікавяцца палякі, а не беларусы!**

-- Так. Але трэба і прычыну высніць. Скажам, існуе 50 школ, у якіх выкладаецца беларуская мова, гэтыя школы ўжо насычаны, патрэбы ў перакладчыцкай галіне таксама задаволеныя. І яшчэ ёсць адна прычына: дзякуючы нашым намаганням, Міністэрства адукацыі Беларусі адкрыла дзверы ўсіх вышэйшых навучальных устаноў для выпускнікоў Гайнаўскага і Бельск-Падляскага ліцэяў, якія могуць без экзаменаў ехаць сюды вучыцца. Яны атрымліваюць, праўда, невялікую стыпендыю і маюць практычна бясплатную кватэру.

У нас у ВНУ такой сітуацыі ўжо практычна няма, памаленьку ўсё пераходзіць на аплату. І ў сувязі з гэтым практычны селянін Беласточчыны, які жыве на сярэднім матэрыяльным узроўні, не ў стане ўтрымліваць дзіця ў Варшаўскім універсітэце, бо на гэта патрэбна мінімум 4 мільёны злотых у месяц. І ёсць вельмі нямнога сялян, якія могуць прадаць кожны месяц карову, каб вучыць дзіця. Тым больш на беларускай філалогіі, якая не ёсць нейкай кібернетыкай ці электронікай, што можа запэўніць будучыню.

А чаму палякі намі цікавяцца? Звычайна ў час уступных экзаменаў я пытаюся: "Чаму вы ідзяце на беларускую філалогію?" Адказы амаль заўсёды падобныя, яны сведчаць аб новай цікавай з'яве. Дагэтуль Беларусь была прыгнечаная, русіфікаваная, ніякай уласнай палітыкі не вяла, ад яе імя гаварыла Расія. Сёння Беларусь становіцца незалежнай рэспублікай, наладжваюцца нармальныя адносіны паміж Польшчай ды Рэспублікай Беларусь -- дыпламатычныя, навуковыя, гандлёвыя, культурныя. Мы пераканаы, што калі скончым беларускую філалогію, то веданне беларускай мовы прынясе карысць і нашым дзяржавам, і нам асабіста таксама.

**-- Такі ж погляд толькі трэба вітаць!**

-- Толькі вітаць, і вельмі гэта радуе.

Ну, гэта як бы першая частка майго адказу. А другая адносіцца да пытання ў справе канфліктаў. Давайце глянем гістарычна на Беларусь, скажам, пад уражаннем гэтай канферэнцыі па рэфармацыі. Калі паяўляюцца новыя тэндэнцыі, калі паяўляецца так званы плюралізм, усё роўна дзе -- ці ў палітыцы, ці ў рэлігіі, ці ў культуры -- то пачынаюцца і спрэчкі, і дыскусіі, і пачынаецца барацьба, і пачынаецца нянавісць. Не трэба ідэалізаваць мінулае, бо калі глянем на мінулае, на адносіны паміж праваслаўем і каталіцызмам, праваслаўем, каталіцызмам і рэфармацыяй, паміж праваслаўнымі і уніятамі, маем дачыненне з працягласцю страшэннай варожасці, страшэннай нянавісці, якая вяла і да спалення кніг, і нават да забойства людзей. Цікава, што Лютэр, які выступаў супраць манаполіі папскай улады, сам паліў людзей на кастрах. На шчасце, у Польшчы сёння ніхто нікога не паліць на кастрах, і думаю, што да гэтага не дойдзе. Веру, што не дойдзе да такой сітуацыі, якая нядаўна праявілася ў Маскве, а гэта таксама вынік плюралізму. Але разумны чалавек, бачачы, да чаго прыводзіць плюралізм, не скажа, што ён нам не патрэбны. Не скажа: у нас было спакойна, бо была адна партыя, адна ідэалогія і жылося вельмі добра, была стабілізацыя. Гэтая рыса, плюралізм, неабходна для нашага жыцця, для нармальнага развіцця грамадства. Чалавек павінен думаць найперш за сябе, а не хтосьці высокапастаўлены думаць за яго і ўсіх і сілаю ашчасліўліваць усіх. Хай чалавек сам, з уласнай волі, ініцыятывы даводзіць сябе або да шчасця, або да бяды.

Што датычыцца арганізацыі, з якой я звязаны, БГКТ, што існуе ад 1956 года, то, па-першае, мы былі манапольнай арганізацыяй да 1988 года, бо не было ніякай іншай. Але калі ў 1988 годзе міністэрства тады яшчэ сацыялістычнай Польшчы да нас звярнулася з пытаннем, што мы думаем аб узнікненні БАСу, то мы напісалі: падтрымліваем такую ідэю. І маладзёжная студэнцкая арганізацыя ўзнікла. Пасля з'явіліся многія іншыя: БДА, Звяз беларускай моладзі. І нас ужо ніхто не пытаў, ці мы згаджаемся, ці не. Яны ўзніклі ў выніку той сітуацыі, якая заіснавала ў Польшчы. Часта нам гавораць: вы падтрымлівалі сацыялістычную Польшчу. Ці гэта праўда? Праўда. Мы лаяльна адносіліся да сацыялістычнай Польшчы. Лаяльна адносімся і да гэтай Польшчы. І калі б узнікла яшчэ нейкая іншая Польшча, то мы будзем падтрымліваць і яе. Хіба што дойдзе да ўлады арганізацыя крайне шавіністычная.

Гэта наш першы прынцып... Другі прынцып: прызнаём плюралізм як з'яву абсалютна нармальную і лагічную. Зыходзім з погляду, што кожны чалавек мае права на сваю ідэалогію, на свае ацэнкі. І таму ніколі і нідзе наша арганізацыя не выступала супраць іншых арганізацый. Калі вы пытаеце мяне пра канфлікт, то ведайце, што экспансія ці агрэсія ідзе тут толькі ў адзін бок -- у адносінах да БГКТ, а ні ў якім выпадку з боку БГКТ да іншых арганізацый. А што тычыцца апошніх, то не мы для іх настаўнікі, не мы для іх аўтарытэт, не мы для іх паліцыя. Як хто хоча, так няхай і захоўваецца. Мы і далей стаім на грунце еднасці беларусаў, прынамсі, у сэнсе нацыянальным.

---

*А ШТО НА ЗЭЛЬВЕНШЧЫНЕ?*

# КАСЦЁЛ У ДЗЯРЭЧЫНЕ — ЗНОЎ ЗВОНЯЦЬ ЗВАНЫ

Сваіх прыхаджан прыняў касцёл Ушэсця, што ў вёсцы (былым мястэчку) Дзярэчын Зэльвенскага раёна. Амаль два гады спатрэбілася мясцовай рэлігійнай абшчыне, каб вярнуць храм да жыцця. Фундатарамі адбудовы святыні былі вернікі і жыхар Францыі Ян Кэрхнэр, які перадаў значную суму грошай, і зрабіў гэта ён у памяць аб сваёй жонцы Ірэне Жукоўскай -- ураджэнцы гэтых мясцін, якая памерла ў 1989 годзе ў замежжы. Дарэчы, упершыню Ян Кэрхнэр у Дзярэчыне пабываў у 1991 годзе.

Касцёл Ушэсця -- помнік архітэктуры неаготыкі, збудаваны вернікамі ўласнымі сіламі ў 1906--1910 гадах з арыгінальнай чырвонай цэглы. Працяглы час у ім праходзілі богаслужэнні, але ў 50-х гадах каталіцкі храм быў адабраны ў вернікаў і перададзены мясцоваму калгасу. У гады, калі па краіне насіўся атэістычны смерч, з касцёла зрабілі склад будматэрыялаў, потым -- збожжасховішча. Новыя гаспадары давялі будынак да ручкі -- абвалілася вежа.

За колькі год да таго, як пачалася рэстаўрацыя касцёла, мясцовы паэт Міхась Скобла трапна адзначыў у сваім вершы "Стары касцёл у Дзярэчыне":

**На ускрайку сяло хаатычна**
**ва ўсе распаўзлося бакі,**
**а ён -- прыгажосцю**
**гатычнай**
**стартуе ў высокі блакіт.**

Дарэчы, зараз у Гродзенскай каталіцкай епархіі налічваецца 175 дзеючых храмаў.

**Пётр ЖЭБРАК.**

73-я ЎГОДКІ СЛУЦКАГА ПАЎСТАННЯ

# "ТЫМ, ХТО ПАЙШОЎ ПАМІРАЦЬ, КАБ ЖЫЛА БАЦЬКАЎШЧЫНА"




Стаіць у вёсцы Семежава, што на Случчыне, драўляны крыж памяці. Паставілі яго год таму ў гонар Слуцкага збройнага чыну, стральцы якога былі апошнімі, хто абараняў незалежную Беларусь і змагаўся за Беларускую Народную Рэспубліку ў 1920 годзе. Нагадаем, што на той час Случчына была найбольш нацыянальна свядомай правінцыяй, дзе існаваў моцны асяродак вызвольнага руху. За апошнія ж семдзесят гадоў савецкая ўлада зрабіла ўсё, каб выкрасліць гэтую падзею з гісторыі Беларусі і з памяці народа.

Цудоўны сонечны дзень выдаўся 27 лістапада. Сонца сляпіла вочы, а незвычайна моцны для гэтай пары мароз студзіў твары тых нешматлікіх беларусаў, чыя памяць была мацнейшай за намаганні яе татальнага знішчэння. У гадавіну Слуцкага паўстання ўшанаваць памяць герояў прыехалі са сталіцы сябры Беларускага народнага фронта, Слуцкай і Салігорскай радаў БНФ "Адраджэнне", народныя дэпутаты Беларусі Лявон Дзейка і Барыс Гюнтар, прадстаўнікі дэмакратычных партый, Беларускае згуртаванне вайскоўцаў, сярод якіх Мікола Купава, Віктар Івашкевіч, Мікола Статкевіч, Алесь Станкевіч і іншыя.

А што ж афіцыйныя ўлады? Нікога не было з Слуцкага гарвыканкома, не было і мясцовага кіраўніцтва -- старшыні калгаса або сельсавета; адсутнічалі дырэктар і нават настаўнікі школы, якая знаходзіцца і пабудавана ў Семежаве на тым месцы, дзе пахаваны стральцы брыгады. Старыя людзі кажуць, што калі будаўнікі закладвалі падмурак школы, то ніяк не маглі зразумець, адкуль і чые ў зямлі косці.

Які ж тэрмін у нашай памяці? А можа ў душах людзей панаваў такі страх, што забіваў нават успаміны?! Здаецца, дажыў ён і да сённяшняга дня. Аб гэтым сведчыць і тое, што пенсіянер, былы дырэктар гэтай школы, які прамаўляў на адкрыцці помніка-крыжа ў мінулым годзе, на гэты раз мусіў адмовіцца ад слова, бо ўвесь апошні час адчуваў цкаванне мясцовага кіраўніцтва.

Не адразу, паступова мясцовыя жыхары далучаліся да ўдзельнікаў сёлетняга сумнага мітынгу. І толькі дзеці без усякай насцярожанасці, з непасрэднасцю і цікаўнасцю ўдзельнічалі ў невялічкім шэсці і ўскладанні вянкоў "тым, хто пайшоў паміраць, каб жыла Бацькаўшчына". Да іх звярталіся прамоўцы, а яны слухалі, і здавалася, што ў вачах дзяцей свяціўся гонар за сваіх продкаў.

А 15-й гадзіне ў Слуцку павінен быў адбыцца сход грамадскасці, але Дом дзіцячай творчасці сустрэў гасцей зачыненымі дзвярамі (гэта нягледзячы на тое, што рахунак за памяшканне быў загадзя аплачаны). Былі зроблены захады да мясцовага кіраўніцтва, і ў рэшце рэшт усё вырашылася, за выключэннем аднаго: хто забараніў і навошта, бо ў 12 гадзін, перад ад'ездам у Семежава, ніякіх пытанняў яшчэ не паўставала.

Узгадаем, што бел-чырвона-белы сцяг і герб "Пагоня", за якія так цкавалі Народны фронт у самым пачатку яго стварэння, зараз сталі дзяржаўнай сімволікай. Дык можа прыйдзе дзень, і гэтая падзея -- Слуцкае паўстанне -- будзе адзначана чырвоным лісткам у нашым календары?!

**Таіса БАНДАРЭНКА.**

**НА ЗДЫМКУ: пасля ўскладання кветак да крыжа памяці.**

**Фота У. КАРМІЛКІНА.**

# "Я ПЛАЧУ, КРЫЧУ: ДЗЕ МАЯ ТУТ ВІНА?.."

## У ВЯНОК ПАМЯЦІ Каці ЛЫШЧЫШЫНАЙ



Божа!

Завошта ўзяў на неба маладзенькую душу? Пазбавіў ад зямных пакут? Увёў у Царства райскае?

Каця пражыла на белым свеце 4 380 дзён. Што паспела зрабіць і ўбачыць за свой міг?

Палюбіць блакіт нябёсаў.

Пазнаць дабрыню мамы Веры, таты Валодзі, брата Алёшы.

Звездаць вернасць школьных сяброўак Тані, Віты, Ані...

І спаўна наглытацца балючых слёз.

Аднойчы ёй зрабілася вельмі страшна ў бальнічнай палаце. Падалося: па калідоры блукае смерць. Толькі не ведае, у якую палату зайсці...

Каця ў адчаі ўхапіла паперу, ручку і пачала ліхаманкава запісваць радкі малітвы, якія дыктавала ёй само сэрца:

**О, Божа, за што ты мяне пакараў!**
**Так, грэшная я -- бо Ісус так сказаў.**
**Тады я ўзляцела, гукнула Вам тут:**
**О, злітуйся, Божа, не дай мне пакут...**

Людзі!

Здымем шапкі, памаўчым хвіліну. На Беларусі памерла Паэтка. Звяла кветка, не зведаўшы плода. Адышла ў нябыт дзяўчынка, не спазнаўшая радасці жыцця. Для яе тут, на зямлі, былі райскімі дні, калі каталася на санках, калі бегала ў школу, калі гуляла са сваімі любімцамі -- кошачкай Люськай, папугайчыкамі Рамэо і Джульетай...

У студзені 1993 года Каця ўпершыню прыехала з Оршы ў Мінск. Не ў сталічны цырк завітала, а ў... бальніцу.

Мама Вера -- верыла!

Каця -- хацела жыць!

А зьдзень-лейкоз душыў іх слязьмі, адбіраў жыццёвыя сокі. Дзяўчынка адчула сябе ў пекле. Крычала ў снах: дзе мая тут віна?

Сябры!

Каця да апошняга дзянёчка верыла, што знойдзецца адзіны яе Бог на зямлі. Прыйдзе, выхапіць з бяды, падорыць Надзею.

Яны была цярплівай перад болем і пісала вершы доктару Аляксею Віктаравічу Аляксейчыку.

Яна ніколі не хацела засмучаць маму і апошні верш прысвяціла ёй:

**Ах, мама, якое цудоўнае слова!**
**Хацела б я вечна яго вымаўляць.**
**Сэрца ў надзеі -- ачуняю скора**
**І буду, як мячык у садзе, скакаць!!!**

Гэты верш Каця даслала нам, у Дзіцячы фонд. Прыгожым, натхнёным почыркам пісала яна, што збіраецца прыехаць на пасяджэнне Дзіцячага парламента. Прысвяціла сваім аднагодкам верш "Сябры".

Была ў Каці адна мара. Шчыра напісала нам: "Пацешная мая мара, яна ніколі не спраўдзіцца..." Хворая дзяўчынка хацела мець маленькую малпачку...

Не дачакаліся мы Каццю на Дзіцячым парламенце.

Знайшлі добрых людзей, якія абяцалі падарыць Каці малпачку.

Удакладнілі Кацін адрас. Даведаліся расклад электрычак на Оршу...

Горкая вестка апярэдзіла наш прыезд да Каці...

Палітыкі, праваднікі і палкаводцы нацыі!

Чаму на Беларусі пакутуюць і паміраюць дзеці?

Ачніцеся ад пякучых слёз маці, якая штодня галосіць па сваёй красачцы.

Давайма спяшацца ладзіць для дзяцей зямны рай, шчодра дарыць ім дабро!

Людзі (спадары, гаспадары, таварышы, дзецюкі, панове)!

Даволі маўчаць. Наступіла ціхае выміранне нацыі. Пахаванняў болей, чым хрэсьбін. Вяселляў амаль столькі, як і разводаў. Сірацеюць і гінуць дзеці пры жывых бацьках.

А Каці Лышчышынай -- пухам родная зямелька.

Хай, дзяўчынка, закалыхваюць твой сон пяшчотныя беларускія бярозкі.

Хай, дачушка, спяваюць табе калыханку галасістыя салаўі.

Тваёй Малітвай, Кацюша, паспрабуем ратавацца:

**І сонца над намі узыдзе, як калісь,**
**Не будзе катлоў, ды пакут, ды і болю,**
**Хутчэй ты вяртайся ка мне -- хоць калі! --**
**Адзіны ў нябёсах мой Бог на зямлі.**

Даруй, Паэтка, і бывай.

**Уладзімір ЛІПСКІ,**
**пісьменнік, прэзідэнт Беларускага дзіцячага фонду.**

* * *

**"Голас Радзімы" далучаецца да ўсіх сяброў Каці і выказвае глыбокія спачуванні яе маці і бацьку, брацiку, а таксама ўсім родным і блізкім маленькай паэткі.**

**Мы ўжо пісалі аб Каці ў нашай газеце, імкнуліся ёй дапамагчы. Сям'я Морысанаў з Вялікабрытаніі, якая наведала Кацю ў шпіталі ў канцы жніўня, амаль што дамовілася з англійскім шпіталем уладкаваць Кацю туды на лячэнне, аб чым і паведаміў па тэлефоне нашаму супрацоўніку Малкам Морысан у сярэдзіне лістапада. За некалькі дзён да гэтага да нас даляцела горкая вестка: Каці не стала. Адышла ў нябыт цудоўная, жыццярадасная, таленавітая дзяўчынка. Неяк так увесь час здараецца, што лепшыя пакідаюць нас першымі.**

**Спі, Каця. Царства табе нябеснае.**

# УДЗЯЧНЫЯ НАШЧАДКІ — СЛАВУТАЙ ПАЭТЦЫ...

Землякі славутай паэткі Ларысы Геніюш узяліся выдаць зборнік у яе гонар.

Вершам Яўгена Гучка "Да партрэта Л. А. Геніюш" зэльвенская раённая газета "Праца" распачала публікацыю твораў, з якіх будзе складзена кніжка-памяць. А на пачатку лістапада газета змясціла зварот да паэтаў — прыхільнікаў таленту Л. Геніюш — дасылаць вершы не пазней снежня на адрас рэдакцыі. Усе яны, як і матэрыялы, будуць друкавацца пад пастаяннай рубрыкай газеты "У вянок Ларысы Геніюш".

Плануемы зборнік вершаў, прысвечаных таленавітай беларускай паэтцы, прымеркаваны да 85-годдзя Ларысы Антонаўны, якое будзе адзначацца ў 1995 годзе. Ужо ёсць фундатары выдання. Кніжка будзе друкавацца ў Слонімскай узбуйненай друкарні. А ў першым квартале наступнага года яна павінна з'явіцца ў кнігарнях рэспублікі.

Добрая ініцыятыва, на жаль, не плён думак зэльвенскай творчай інтэлігенцыі, а перш за ўсё ініцыятыўных прыхільнікаў творчасці Ларысы Геніюш.

**Пётр ЖЭБРАК.**

## ГІСТОРЫЯ БЕЗ ІДЭАЛІЗАЦЫІ

# БНР — БССР — РБ,
## або ПАЛЕМІЧНЫЯ НАТАТКІ З НАГОДЫ ЮБІЛЕЮ

Расійская дэлегацыя падпісала дагавор без абмеркавання. Каля мільёна квадратных кіламетраў тэрыторыі было аддадзена Германіі. За сваю гісторыю вялікая Расія не ведала нічога больш ганебнага, чым Брэсцкі трактат. У тэксце дагавора, па якому Германія атрымлівала ўсё, што хацела, і акупіравала ўсё, што магла, змяшчаліся артыкулы, якія заахвочвалі сепаратысцкія рухі ў Латвіі, Эстоніі, Літве, Грузіі, на Украіне. Беларусь як краіна, як нацыянальны рэгіён не ўпамінаецца ні ў асноўным дагаворы, ні ў дадатках да яго. Згодна з Дабавачным руска-германскім дагаворам, заключаным 27 жніўня 1918 года, Германія ўзяла на сябе абавязацельства «не выклікаць, не падтрымліваць самастойных дзяржаўных арганізмаў», не ўмешвацца ў адносіны паміж «рускай дзяржавай і яе асобнымі абласцямі».

Афіцыйныя германскія палітыкі тлумачылі ваенную акцыю неабходнасцю вызвалення расійскіх ускраін ад бальшавікоў і ўсталявання ў іх парадку. За ўсім гэтым праглядвалася мэта «адсячы» ад Расіі нацыянальныя рэгіёны. З Украінскай Народнай Рэспублікай Германія і яе саюзнікі заключылі асобны мірны дагавор. Выключны клопат германскі ўрад праявіў у адносінах Прыбалтыкі. У Брэст-Літоўскім дагаворы па сутнасці вызначаліся будучыя межы Эстоніі, Латвіі і Літвы з Расіяй. Чырвоная гвардыя павінна была неадкладна быць выведзена з Прыбалтыкі, а таксама з Фінляндыі, што ратавала яе ад саветызацыі.

Як бачым, да Беларусі быў асобы падыход. Ён ажыццяўляўся і ў адносінах да беларускіх арганізацый, што аб'явілі БНР. Характэрны такі штрых. Выселены з былога губернатарскага дома гаспадар зямлі беларускай — Народны сакратарыят БНР туліўся, як нядаўна высветлілі гісторыкі, у арандаваным памяшканні на трэцім паверсе аднаго з дамоў на Захар'еўскай вуліцы. Тут жа праводзіліся і заняткі курсаў беларусазнаўства ("Добры вечар", 1993, 6 мая).

Выкрывальнікі нацдэмаў у трыццатыя гады называлі БНР марыянетачнай дзяржавай. Але нямецкія ўлады, якія мелі на мэце расчляненне Беларусі, глядзелі на справу па-іншаму. Германія не была зацікаўлена ў прызнанні Беларусі ў якасці самастойнага нацыянальнага рэгіёна, а тым больш дзяржавы.

Заўважым, што палітыка кайзераўскай Германіі ў беларускім пытанні далёка не высветлена. Без нямецкіх архіваў тут не абысціся. Думаецца, што дзеля развіцця сяброўскага супрацоўніцтва паміж нашымі дзяржавамі нямецкі бок будзе зацікаўлены ў тым, каб у гісторыі беларуска-нямецкіх адносін 1918 года не было «белых плям».

### 5. САКАВІЦКІЯ ПАДЗЕІ 1918 ГОДА Ў СУЧАСНАЙ ТРАКТОЎЦЫ

Юбілейныя ўшанаванні былі закліканы надаць абвяшчэнню БНР гістарычную значнасць і паказаць уплыў гэтага акту на ход гісторыі, аддаць належнае партыям і палітычным дзеячам, якія змагаліся за беларускую дзяржаўнасць. Навуковыя дыскусіі ў гэтай сувязі павінны былі праясніць спрэчныя пытанні, устанавіць невысветленыя абставіны барацьбы за самавызначэнне Беларусі.

Але не абышлося, на наш погляд, без юбілейных перабольшванняў, без інтэрпрэтацыі ўжо вядомых фактаў у рэчышчы палітычнай зададзенасці і інш. Гэта перш за ўсё тычыцца трактоўкі БНР як дзяржавы. Дэкларацыі і праграмы прымаліся часта за ажыццёўленую рэальнасць. Асабліва было прыкметна імкненне палітыкаў ды і вучоных убачыць у БНР рысы паўнацэннай суверэннай дзяржаўнасці.

Каб чытачу было ясна, пра што ідзе гаворка, прывядзём некаторыя выказванні наконт гэтага.

«...Падзеі 25 сакавіка 1919 года з'яўляліся пачаткам адраджэння беларускай дзяржаўнасці і найноўшай гісторыі Бацькаўшчыны».

У сакавіку 1918 года былі «закладзены асновы дэмакратычнай, прававой і сацыяльнай беларускай дзяржаўнасці».

З абвяшчэннем БНР адбывалася «станаўленне і развіццё БНР як сувярэннай дзяржавы».

У 1918 «пасля доўгага панавання чужынцаў адрадзілася беларуская дзяржаўнасць».

«25 сакавіка 1918 года была створана свая нацыянальная дзяржаўнасць у выглядзе Беларускай Народнай Рэспублікі, якая ў хуткім часе атрымала афіцыйнае прызнанне на міжнароднай арэне. Але лёс распарадзіўся так, што незалежная БНР праіснавала нядоўга, так як праз дзевяць месяцаў бальшавікі абвясцілі аб утварэнні сваёй "контрдзяржавы" — беларускай ССР".

І вось ужо ў справаздачы аб выніках работы навуковай канферэнцыі ў Доме літаратара зыходны тэзіс (БНР — суверэнная дзяржава) атрымаў далейшае канкрэтнае напаўненне: «Здзіўляе і выклікае захапленне, як многа паспеў зрабіць урад БНР у галіне дзяржаўнага будаўніцтва, міжнароднай палітыкі, вайсковай справы, у галіне культуры і асветы за кароткі час існавання рэспублікі. Сённяшні Вярхоўны Савет і ўрад Рэспублікі Беларусь маглі б павучыцца патрыятызму і працаздольнасці ў сваіх папярэднікаў, што ў сакавіку 1918 года абвясцілі незалежнасць Беларусі» (ЛіМ, 1993, 26 сакавіка).

Прыведзеныя вышэй выказванні па сваёй сутнасці не новыя. Нешта падобнае сцвярджаў Аўген Калубовіч, выступаючы на ІІ Усебеларускім кангрэсе. (Зборнік яго артыкулаў «Крокі гісторыі» з партрэтам аўтара нядаўна выйшаў з друку). Член Беларускай Цэнтральнай Рады Калубовіч заявіў: «Беларуская Народная Рэспубліка сталася пачаткам вольнай беларускай дзяржавы». З заняццем жа бальшавікамі Мінска «дзяржаўнасці і незалежнасці Беларусі быў усаджаны нож». ("Другі ўсебеларускі кангрэс", с. 53). Але Масква не забіла ідэалаў 25 сакавіка, і таму, «каб заспакоіць беларусаў, яна змушана была абвясціць 1-га студзеня 1919 года так званую Беларускую Савецкую Рэспубліку ды гвалтоўна далучыць да Савецкай Расіі». (Там жа).

БССР, сцвярджаў Калубовіч, "замаскаваная фікцыя бутафорскай дзяржаўнасці і пры гэтым далёка не беларускай, а маскоўскай", а Савецкі Саюз -- "хітра замаскаваная, збальшавінізаваная і зсаветызаваная былая Расійская імперыя". (Там жа, с.54).

Але рэальнасць была іншай. Своеасаблівасць сітуацыі, яе парадаксальнасць заключалася ў тым, што незалежная, суверэнная БНР была аб"яўлена на тэрыторыі, дзе ўся ўлада належала нямецкай акупацыйнай адміністрацыі. Звычайна поспех вызваленчага руху завяршаецца і замацоўваецца стварэннем нацыянальнай дзяржавы. У дадзеным выпадку ўсё было інакш: былі абвешчаны ідэі аб нацыянальнай свабодзе і дзяржаўнай самастойнасці, якія яшчэ трэба было рэалізаваць.

Германскі ўрад разглядаў ваенныя, палітычныя і эканамічныя аспекты з пазіцыі неабходнасці ўмацавання акупацыйнага рэжыму, максімальнага выпампоўвання на фінішы сусветнай вайны сыравінных і харчовых рэсурсаў з Беларусі. Прытрымліваючыся сваіх ваенна-эканамічных мэтаў, манархічная Германія не прызнавала і не збіралася прызнаваць якую-небудзь паралельную ўладу. У яе планы не ўваходзіла прызнанне беларускай дзяржаўнасці нават у выглядзе структуры, падначаленай акупацыйнай адміністрацыі. Заява кіраўніцтва БНР (старшыні Рады, старшыні ўрада, шэрагу членаў рады) аб гатоўнасці ісці ў рэчышчы германскай палітыкі не далі станоўчых вынікаў. У Германіі, як гэта можна меркаваць па Брэст-Літоўскаму мірнаму дагавору, былі планы расчлянення Беларусі з далучэннем яе паўночна-заходняй часткі да Прусіі. Нават без высвятлення дзейнасці Рады БНР і Народнага сакратарыята зразумела, што ва ўмовах акупацыі немагчыма было функцыяніраванне нацыянальнай, а тым больш суверэннай дзяржаўнасці. Як арганізацыі ў цэлым лаяльнай, акупацыйныя ўлады не перашкаджалі Народнаму сакратарыяту займацца выдавецкай, культурна-асветніцкай і іншай дзейнасцю, не звязанай, зразумела, з выкананнем уладных функцый.

Нават Выканком БСДГ, 'які зусім не зацікаўлены ў прыніжэнні ролі БНР у гісторыі дзяржаўнага будаўніцтва, у адной са сваіх заяў прызнае: "Развіць усе формы беларускай дзяржаўнасці ўраду БНР не далі кайзераўскія акупанты, якія дакладна выконвалі Берасцейскі дагавор з бальшавікамі. Яны перашкаджалі стварэнню мясцовых органаў улады, паліцыі, судоў. Яны не далі стварыць беларускае войска і пакінулі Беларусь безабаронную перад бальшавікамі, якія ў 1919 годзе здалі Беларусь польскім акупантам, а потым падзялілі яе з Літвой, Латвіяй і Польшчай" ("Народная газета", 1993, 12 сакавіка).

Рада БНР і Народны сакратарыят (пасля ён быў перайменаваны ў Савет Міністраў) -- гэта на справе палітычны цэнтр, што аб"ядноўваў арганізацыі, партыі, грамадскіх дзеячаў на платформе нацыянальна-дзяржаўнага адраджэння. Каб заваяваць рэальную ўладу, трэба было размаўляць з немцамі з пазіцыі сілы. Але такіх магчымасцей у Рады БНР не было. А партызанскі і падпольны рух, што пачаўся стыхійна, аказаўся пад эгідай бальшавікоў. Матэрыялы з нямецкіх архіваў маглі б праліць дадатковае святло на становішча ў акупіраванай Беларусі, на характар узаемаадносін Рады БНР з камандаваннем Х нямецкай арміі і вышэйшымі эшалонамі ўлады Германскай імперыі. Але дакументы сведчаць аб тым, што немцы не збіраліся дзяліць з кім-небудзь уладу.

З крахам нямецкай акупацыі ў канцы 1918 года і аднаўленнем Саветаў Рада БНР, якая служыла сімвалам аб"яўленай дзяржаўнасці, фактычна распалася. Затым, ужо ў перыяд польскай акупацыі, узніклі дзве канкуруючыя рады (Рада БНР і Найвышэйшая Рада), якія аднольнава прэтэндавалі на дзяржаўнае прадстаўніцтва беларускага народа. Прытрымліваючыся розных арыентацый, яны беспаспяхова спрабавалі дабіцца ўтварэння з дапамогай Польшчы ці краін Антанты хаця б у пачатковай форме беларускай дзяржаўнасці.

Самі па сабе заслугоўваюць увагі выказаныя ў друку весткі аб міжнародным прызнанні БНР. Называюцца дзесяць краін, што прызналі незалежнасць Беларусі. Але ніхто не прыводзіць у пацвярджэнне якую-небудзь крыніцу. Не ўказваецца форма юрыдычнага прызнання: прызнанне ўрада ці прызнанне дзяржавы. У ліку дзяжаў, прызнаўшых БНР, называецца Польшча. Але вядома, што Польшча ў прэлімінарным (папярэднім), а затым у Рыжскім мірным дагаворы прызнала адноўленую ў 1920 годзе Сацыялістычную Савецкую Рэспубліку Беларусь.

І далей. Ці ёсць падставы для сцвярджэння, што голас прадстаўнікоў БНР "гучаў на міжнародных канферэнцыях у Парыжы і Генуі"? Такая фармулёўка дапускае адназначнае тлумачэнне: БНР -- непасрэдны ўдзельнік канферэнцый, на якіх разглядаліся праблемы пасляваеннага мірнага ўрэгулявання. Што дало падставы для такога сцвярджэння? Вядомыя факты аб тым, што ўрад БНР дабіваўся такога ўдзелу, накіроўваў у Парыж мемарандумы, звароты, матэрыялы картаграфічнага характару.

Звесткі па пытанню: БНР і Генуэзская канферэнцыя -- змяшчае ўпамянутае кніга А.Калубовіча, з якой даведваемся, што ўрад БНР накіраваў у Італію прэм"ера В.Ластоўскага і міністра замежных спраў А.Цвікевіча дабівацца ўключэння беларускага пытання ў парадак дня форуму ў мэтах атрымання міжнароднага прызнання прадстаўляемай імі дзяржавы. Беларускія дэлегаты былі прыняты старшынёй канферэнцыі, выслуханы Палітычнай камісіяй. Але дабіцца разгляду пытання аб лёсе Беларусі на самой канферэнцыі так і не ўдалося. Гэтаму, дарэчы заўважыць, рашуча праціўлася дэлегацыя РСФСР, якая мела паўнамоцтвы прадстаўляць на канферэнцыі інтарэсы ССРБ і іншых савецкіх рэспублік. На здагадках зроблены таксама вывад аб тым, што міжнароднае прызнанне БНР і ўдзел яе ў міжнародных канферэнцыях "прымусілі" бальшавікоў двойчы абвяшчаць БССР".

Не могуць не падацца спрошчанымі, адналінейнымі выказванні аб уплыве самога факта існавання "ўрада БНР ў выгнанні" на ажыццяўленне беларусізацыі і ўзбуйненне БССР у 20-х гадах. У бальшавікоў была свая тактыка і стратэгія ў гэтым пытанні, якая вызначалася лібералізацыяй палітычнага рэжыму ва ўмовах новай эканамічнай палітыкі 20-х гадоў. Зразумела, знешні фактар таксама не мог не ўлічвацца. Але ён не быў рашаючым.

У адной з публікацый гаворыцца, што БНР прымусіла Польшчу лічыцца з правамі беларусаў. Але факты сведчаць аб тым, што польскі ўрад няўхільна праводзіў экспансіянісцкую палітыку ў адносінах да Беларусі. У 1919--1920 гадах ён рашуча адхіліў прапановы аб стварэнні ў любой форме беларускай дзяржаўнасці на акупіраванай польскімі войскамі тэрыторыі. Не мелі поспеху спробы арганізацыі беларускага войска пад эгідай польскага камандавання. Пазней, па Рыжскаму мірнаму дагавору, Польшча дабілася ўключэння ў склад дзяржавы Заходняй Беларусі.

Абвяшчэнне БНР стала "лагічным завяршэннем беларускага нацыянальнага адраджэння" -- чытаем у адной з грунтоўных публікацый. Але гэта не зусім так. І пасля краху нямецкай акупацыі працягвалася ўпартая барацьба арганізацый і дзеячаў, што групаваліся вакол Рады БНР, за стварэнне ў процівагу БССР беларускай дзяржавы на іншай, зразумела, сацыяльнай аснове. І, значыць, барацьба за беларускае нацыянальнае адраджэнне працягвалася. Але поспехаў не было. Вось сведчанні Янкі Купалы.

Свае адносіны да вынікаў барацьбы за незалежнасць Беларусі ў 1918--1920 гадах Янка Купала выказаў у вершы пад назвай: "25.ІІІ.1918--25.ІІІ.1920 (Гадаўшчына -- памінкі)" наступнымі радкамі:

"Не "незалежнасць" пра час гэты
Свае разводзіла святло,
А падняволле без прасветы,
А рабства Беларусь гняло"
("Полымя", 1988, N 10.С.4).

Вялікі нацыянальны паэт, ідэолаг нацыянальнага адраджэння, відаць, меў падставы, каб зрабіць такі вывад, у якім не хаваў пачуцця расчаравання і бязвыхаднасці.

### 6. АБВЯШЧЭННЕ СУВЕРЭННАЙ, НЕЗАЛЕЖНАЙ ССРБ

А цяпер паглядзім на тое, як абласное кіраўніцтва ў Смаленску рэагавала на абвяшчэнне БНР.

Другі з'езд Саветаў Заходняй вобласці, што адбыўся ў красавіку 1918 года, заявіў: толькі ён сапраўдны і законны прадстаўнік інтарэсаў працоўных Беларусі. Беларуская рада, з'яўляючыся выразніцай інтарэсаў памешчыкаў, "робіць чорную справу здрады агульнарасійскім сацыялістычным інтарэсам". Мэта Рады -- утварыць беларускую буржуазную дзяржаву.

Абласны цэнтр працягваў ігнараваць нацыянальнае пытанне і не лічыў патрэбным у процівагу Радзе БНР заявіць хаця б аб праве беларусаў на самавызначэнне, аб магчымасці ў будучыні стварыць беларускую дзяржаўнасць на падставах, прапанаваных ІІІ Усерасійскім з'ездам Саветаў. Змагаючыся супраць сепаратызму, кіраўніцтва Заходняй вобласці разам з вадой выплюхнула і дзіця. Упадаючы ў крайнасць, Аблвыкамзах не дапускаў магчымасці ўтварэння ў Беларусі нават пачатковай формы нацыянальнай дзяржаўнасці -- абласной аўтаноміі, прапанаванай Белнацкамам.

Нацыянальныя нігілісты з кіраўніцтва Заходняй вобласці тым не менш лічылі сябе марксістамі, сапраўднымі інтэрнацыяналістамі, а тыя, хто "выдумваў" беларускую нацыю, да таго ж ставіў пытанне аб праве беларусаў на дзяржаўную самастойнасць, прылічваліся да нацыяналістаў.

Жорсткую палітыку кіраўніцтва Заходняй вобласці на чале з А.Мясніковым у сферы нацыянальных адносін няправільна ўсё ж будзе разглядаць як прамы працяг палітыкі Цэнтра. Між тым ён дае нямала прыкладаў гібкага, прагматычнага рэагавання на змяненне становішча.

**Вадзім КРУТАЛЕВІЧ.**

Працяг.
Пачатак у №№ 47, 48.

# ЛЮБА... ЛЮБАНЬ!

(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.).

Бо гэта ён, як бы адгукаючыся на прыгожыя словы Адама Міцкевіча ў яго парыжскіх лекцыях 40-х гадоў, сведчыў на ўсю Расійскую імперыю, што ён "па нейкай неўсвядомленай ахвоце да вывучэння народных паданняў і казак прыслухоўваўся да гукаў **гарманічнай, пявучай** беларускай мовы, запісваў словы і апавяданні з вуснаў сялян, прабіраўся ў хаты і клеці, знаходзіў задавальненне гутарыць за сціплым пачастункам з сівымі дзядамі і маршчыністымі бабулькамі. Што цягнула мяне туды, у бедныя хаты гэтых людзей? Не ведаю... я любіў гэтых добрых людзей, я знаходзіў радасць у іх павольнай гаворцы, у іх песнях, прыказках і прымаўках, мне весела было жыць з імі, дзяліцца чыстымі захапленнямі іх душ; **мне не хацелася ісці з іх хат**, мне шкада было развітацца з іх куткамі, дзе я пачуў столькі дзівос і цудаў пра князёў зачараваных і княгінь заварожаных, пра скарбы і пачвары, што іх сцерагуць, пра чарадзейныя падзямеллі і знахароў-чарадзееў... Колькі новага, невядомага мне са школьнай лаўкі я даведаўся ў гэтым народным вучылішчы... Я жыў з імі, я рос сярод іх". Сапраўды, хто хоча, той пачуе!



Дзіва, што так напісаў чалавек, які закончыў Слуцкае духоўнае вучылішча, Мінскую духоўную семінарыю і з тытулам кандыдата багаслоўя ў 1847 годзе -- Санкт-Пецярбургскую духоўную акадэмію. Чалавек, які не толькі меў грунтоўныя веды ў многіх галінах навукі, але і выкарыстоўваў у сваіх працах больш чым 15 моў. Глыбока сімвалічна, што выдатны вучоны, сын святара ў 1852 годзе адмовіўся ад духоўнага сана і прысвяціў сваё жыццё даследаванню роднага краю і літаратурнай дзейнасці. Больш таго, П.Шпілеўскі заглыбіўся ў язычніцтва і міфалогію беларусаў і ўслед за сваім вялікім папярэднікам З.Даленга-Хадакоўскім на канкрэтным матэрыяле сцвердзіў, што беларуская фальклорная традыцыя ў сваёй аснове мае старажытны дахрысціянскі характар, калі ў аснове яе былі найвялікшыя багі на свеце -- Прырода і Космас. Ад іх чалавек залежыць паўсядзённа, ён гэта інтуітыўна адчувае і таму славіць іх у сваіх песнях, казках, паданнях, абагаўляе іх ва ўсіх формах культуры. Першымі і важнейшымі тут ішлі Сонца, Зямля, Месяц, Маланка, Дождж, Мароз. На старонках фальклорна-этнаграфічных прац Шпілеўскага яны паўстаюць у вобразах Купалы, Лады Кляскуна, Копшы і многіх іншых. Найбольш поўна і мнагаліка яны прадстаўлены ў працы Шпілеўскага "Беларускія паданні" (1846), дзе пад невыпадковым псеўданімам Драўлянскага дае апісанні 52 такіх прыродна-паэтычных увасабленняў беларусаў. Шпілеўскі з дапамогай свайго паэтычна-ўзнёслага, рамантычнага светапогляду па шматлікіх тэкстах фальклору, у першую чагу паданняў, узнаўляе міфалагічны Алімп беларусаў. Мы гэтага зрабіць ужо не змаглі б. Удумлівы і, на жаль, фактычна пакуль што адзіны даследчык фальклорна-этнаграфічных прац Шпілеўскага Іван Цішчанка ў кнізе "Да народных вытокаў" (1986) вельмі сурова аднёсся да "Беларускіх паданняў", назваў памылковым наступнае выказванне аўтара: "У простым народзе беларускіх губерняў можна знайсці многа звычаяў, ігрышчаў, абрадаў, прыгаворак, якія вядуць свой пачатак ад часоў язычніцтва... Нельга не здзіўляцца, як маглі захавацца многія песні без усялякіх змен: цяжка знайсці ў іх якую-небудзь перамену не толькі ў думках, але нават і ў словах".

З гэтым і другім меркаваннем Шпілеўскага, што хрысціянства фактычна не адбілася на фальклоры беларусаў, аўтар артыкула безумоўна салідарны, бо Шпілеўскі, канешне, меў на ўвазе светапоглядны ўплыў, а не знешне фармальны. У апошні час навука, асабліва аб"ектыўнае гістарычнае асвятленне пройдзенага беларусамі шляху, таксама сведчыць, што Шпілеўскі-міфолаг меў рацыю. Гэтым выдатны даследчык як бы



звязаў свой час з нашым, а яго працы яшчэ паслужаць святой справе адраджэння нацыянальнай культуры. Багаты фальклорны матэрыял перадаў нам Шпілеўскі ў вялікай колькасці іншых прац: артыкулы аб святкаванні Юр'я (1858), п'еса "Дажынкі" (1857), "Даследаванні аб ваўкалаках на аснове беларускіх паданняў", артыкул "Вясельная абраднасць у засцянкоўцаў Віцебскай губерні" (1854). Ён апублікаваў бясцэнную калекцыю з пяцісот прыказак і прымавак, бо першы захаваў у іх фанетыку беларускай мовы свайго часу. Ёсць фальклорныя матэрыялы ў яго аўтабіяграфічных апавяданнях, шматлікіх нарысах.

Але галоўныя дзве працы П.Шпілеўскага, якія адпаведна друкаваліся ў знакамітых рускіх часопісах "Современник" і "Пантеон" -- "Вандроўка па Палессю і Беларускім краю" (1853) і "Беларусь у характэрных апісаннях і чарадзейных казках" (1853).

У першай зоркае вока вучонага адлюстравала ўсё, што яму траплялася ў час падарожжа з Варшавы (там ён працаваў пасля заканчэння духоўнай акадэміі) на Беларусь. Акрамя гістарычных звестак, Шпілеўскі дэталёва ўзнаўляе паўсядзённы побыт беларусаў, іх адзенне, ежу, прыводзіць легенды і тапанімічныя паданні, песні, апісвае танцы. Верны сын свайго краю горача заклікае тагачасную грамадскасць звярнуць увагу на унікальную захаванасць рэліктаў язычніцкай міфалогіі і фальклору, рэшткі родавых адносін у беларусаў. Ён адным з першых указвае на дзяржаўнасць беларускай мовы ў Вялікім Княстве Літоўскім, адзначае, што яшчэ ў канцы XVIII стагоддзя на ёй гаварылі большасць мінскіх, магілёўскіх і віцебскіх памешчыкаў, а уніяты нават пісалі на ёй свае метрычныя кнігі (які гэта цудоўны прыклад для нашых парламентарыяў, дзяржаўных дзеячаў і святароў).

Яшчэ больш фальклорных матэрыялаў у другой названай працы П.Шпілеўскага, якая ўяўляе сабой нарысы абрадаў і звычаяў беларусаў. Адкрываецца яна ўсхваляваным уступам, дзе аўтар выказвае сваю палымяную любоў да радзімы -- Беларусі, яшчэ раз акцэнтуе ўвагу даследчыкаў, што ў яе культуры выдатна захаваліся элементы старажытнаславянскай эпохі.

Каштоўныя кірмашовыя песні і прыказкі ёсць у нарысе "Беларускі кірмаш", які разглядаецца аўтарам "як тэатралізаванае, паэтычнае, песеннае, батлеечнае прадстаўленне". У наступных "Калядных павячорках" -- звычаёвая форма сустрэч моладзі. Іх потым выдатна скарыстаў праз паўстагоддзя Ігнат Буйніцкі, іх у наш час выкарыстоўвае Беларускае тэлебачанне ў праграме "Запрашаем на вячоркі". Яшчэ шырэй, чым у "Вандроўцы...", Шпілеўскі падае ў гэтым нарыке апісанне танцаў і тэксты песень, выдзяляе выключную ролю танцоразавадатара на вячорках.

Абмяжуемся назвамі, бо яны гавораць самі за сябе, наступных нарысаў: "Вясельныя абрады жыхароў Магілёўскай і Мінскай губерняў", "Абрады сялян Віцебскай і Мінскай губерняў пры ўборцы збожжа з палёў", "Радзіны і хрэсьбіны",

# ІМЕМ АЙЦА І СЫНА

(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.).

І калі так адбываецца, гэта азначае найперш тое, што пісьменнік выканаў сваю задачу, апраўдаў сваё прызначэнне, да таго ж -- самым адменным чынам. І нам, чытачам, застаецца толькі адно -- аддаць яму нізкі паклон. І, можа, не столькі за талент, колькі за тое, што хапіла ў пісьменніка смеласці пусціць у сваю -- часцей за ўсё спакутаваную -- душу яшчэ нейчы, не свой -- чужы! -- боль, які, злучыўшыся з пісьменніцкім, перарастае ў іншы Боль -- Вялікі, Агульначалавечы! -- і мы, прайшоўшы праз яго, ачышчаемся, узнімаемся вышэй, робімся Людзьмі ў самым лепшым сэнсе гэтага слова.

Выключнасць твораў гэтага кшталту яшчэ і ў тым, што іх ужо не закрэсліш, не абыдзеш маўчаннем. Ды і не забудзеш! Яны як вехі, якія пазначаюць пэўны этап нашага шляху, і не толькі пазначаюць, але і прадказваюць, куды мы скіруем па бліжэйшым часе: да самазнішчэння або да самасцвярджэння.

Пісьменнікаў, якія валодаюць гэткім талентам -- уздзейнічаць на нашы душы і ўмацоўваць іх, -- не так і многа, і сярод іх у першую чаргу хацелася б назваць Васіля Быкава і Таісу Бондар. Выказванне гэта зусім не азначае, што іншыя пісьменнікі -- вядомыя і не надта, сталыя і пачаткоўцы -- імгненна перастаюць праз тое існаваць. Не, яны застаюцца, нікуды не знікаюць і -- як і дагэтуль -- па-ранейшаму нясуць свой крыж, лёгкі або не надта, цяжкі да невыноснасці або зусім неадчувальны, -- выконваюць прызначаную ім місію абуджэння грамадства. Але вехі -- дзве велічыні, якія нельга скрануць, -- гэта, зноў кажу, Васіль Быкаў і Таіса Бондар.

Чаму такая катэгарычнасць? І чаму толькі два імені? Хіба няма на Беларусі добрых пісьменнікаў? Добрых -- шмат. Але гэткіх -- толькі два.

У свой час, калі толькі з'явіўся ў друку "Знак бяды" Васіля Быкава, я чытаў гэты твор з дзіўным адчуваннем чагосьці незвычайнага, чаго дагэтуль не было ў беларускай літаратуры. Васіль Быкаў не біў сябе ў грудзі, не прывязваў сваіх герояў да жэрлаў гармат, каб чытач ажно заходзіўся ад жаху, карацей, не гнаўся за знешнімі эфектамі. Ён проста пераказваў тое, што адбывалася ў вайну ці перад вайной, і гэта нібыта немастацкасць, нібыта проста пераказ уздзейнічалі надзвычай моцна: спрацоўвала правіла, выказанае некалі Ніцшэ: "Думкі, якія прыходзяць нячутна, як голуб, -- яны і кіруюць намі".

І калі я перагарнуў апошнюю старонку, першае, што я вымавіў, былі словы: "Дай Бог і мне напісаць некалі гэткае!" Напэўна, я не першы і не апошні, хто менавіта так выказаў сваё ўражанне ад быкаўскай аповесці, падкрэсліўшы тым самым яе выключнасць і недасягальнасць. Гэта быў твор, які займаў вышыню, на якую не падымаўся яшчэ ніхто ў беларускай літаратуры. І разам з тым гэта быў твор, зразумелы кожнаму -- ад земляроба да акадэміка.

Маё асабістае ўзрушэнне было такім моцным, што я ледзь стрымаў у сабе жаданне напісаць Быкаву ліст -- менавіта з тымі, сказанымі толькі самому сабе словамі, -- але не напісаў. Пасаромеўся. Але і па сённяшні дзень нашу ў сабе адчуванне чагосьці нязробленага -- таго, што мусіў зрабіць, але не зрабіў. І -- тым самым -- нібыта пазбавіў Быкава таго, на што ён, як і любы пісьменнік, напэўна, разлічваў у глыбіні душы: на водгук простага чалавека, якім я і быў, чытаючы ягоны твор. Рэцэнзіі -- станоўчыя ці адмоўныя -- маюць для аўтара іншае значэнне: яны нібыта падкрэсліваюць, што ён пісьменнік (у сэнсе -- прафесіянал).

А чытацкі водгук -- які ён ні ёсць, благі ці добры, -- заўсёды тая кропелька, якая наталяе пісьменніцкую смагу, кропелька, якая дае яму магчымасць паверыць у тое, што ён сапраўды пісьменнік (не па прафесіі, а па прызванню), бо кожны, бадай, хто ўзяўся за пяро, "хварэе" на гэту няўпэўненасць (не пазбеглі гэтай "хваробы" ні Талстой, ні Чэхаў, ні ўсе астатнія, вялікія і малыя), "хварэе" не таму, што не ведае сваіх сілаў (як прафесіянал, ён здольны даць ацэнку напісанаму), "хварэе" як чалавек, які вырашыў адкрыцца незнаёмым дагэтуль людзям. А гэтых незнаёмых -- процьма! Хіба не страшна?! Ці перакане ён усіх? Аднаго, двух -- працей! А тых, хто ўзяў у рукі кніжку і дачытаў яе да канца?

За "Знак бяды" Васілю Быкаву не было чаго хваляваца: гэта якраз той шчаслівы выпадак, калі пісьменніцкае слова перагукалася і практычна было словам ледзь не ўсіх тых незнаёмых людзей, для каго пісаўся твор. Папярэднія рэчы Быкава ("Сотнікаў", "Яго батальён", "Круглянскі мост" і іншыя) больш падыходзілі -- калі прыгадаць нашу класіфікацыю -- да першай катэгорыі (да твораў, якія нараджаліся ад Злосці і выклікалі Злосць, хаця падзел гэты, зразумела, вельмі ўмоўны) і з'яўляліся нібыта падрыхтоўчымі, свайго роду стартавай пляцоўкай да "Знака бяды", і калі не маніць, -- то і ў "Знаку бяды" Злосць не знікла. Яна прысутнічае ў творы, але ўжо не ў якасці вядучай сілы, а як адзін з кампанентаў Болю, і якраз гэта акалічнасць і здзіўляла, і -- адначасова! -- пазбаўляла нас, чытачоў, злосці, не даючы нам падставы кіравацца ёю ў жыцці.

Гэтак шмат слоў пра В.Быкава сказана не таму, што пра яго цяпер можна казаць усё -- як адмоўнае (калі ў каго знойдзецца!), так і дадатнае (і нішто яму не пашкодзіць), -- а найперш таму, што словы, сказаныя пра яго, -- масток да другога незвычайнага твора, з якім мы пазнаёміліся зусім нядаўна ў часопісе "Маладосць" (NN 1--2 за 1993 г.) -- з аповесцю Таісы Бондар "Імем Айца і Сына".

Шчыра кажучы, калі я толькі разгарнуў аповесць і амаль з першых радкоў здагадаўся, якую тэму яна будзе закранаць, мяне на момант ахапіў недавер: ну што яшчэ, вартае ўвагі, можна напісаць пра Чарнобыль пасля ўсяго, што было напісана іншымі -- і публіцыстамі, і пісьменнікамі?! Што гэта ўздумалася Таісе Бондар брацца за такую тэму?!

"Хаўтуры і памінкі". Завяршаецца "Беларусь у характэрных апісаннях..." апісаннем валачобніцтва і тэкстамі чарадзейных казак. Са сказанага відаць, што па ахопу абрадавага фальклору беларусаў гэта праца П.Шпілеўскага не мае сабе роўных і чакае сваіх удумлівых і шчырых даследчыкаў, як і сама разумная, летуценна-рамантычная постаць Паўла Шпілеўскага. У сэнсе сказанага якраз і ёсць адметнасць любанскага свята, для якога любанцы знайшлі форму "фальклорнай вандроўкі па Шпілеўскаму".

Госці з Польшчы, Мінска, Берасця, Маларыты, Клецкай Морачы доўгім ланцужком вазкоў, з музыкай і песнямі рушылі з Любані да месца нараджэння ў 1823 годзе выдатнага любанца — у вёску Шыпілавічы, дзе адбыўся канцэрт мясцовых фальклорных калектываў. Песнямі, танцамі, карагодамі, хлебам-соллю і чаркамі віталі "поезд Шпілеўскага" жыхары вёсак Арлёва, Рэдзькавічы, Сарачы. Для іх гэта было таксама свята.

У выдатным Палацы культуры ў Сарачах адбыліся два вялікія "канцэрты Шпілеўскага" -- лепшых фальклорных калектываў Любаншчыны і гасцей: спеўных фальклорных гуртоў з вёсак Чарняцы Маларыцкага і Морач Клецкага раёнаў. Прыгожа дапоўніў іх "Мінскі гармонік" з таленавітай салісткай, выканаўцай родных песень Тамарай Ліхадзіеўскай.

"Па Шпілеўскаму" на свяце панавала песенная, танцавальна-карагодная атмасфера рамантычнай узнёсласці, радасці, весялосці, натуральнай прыгажосці. Трубілі дудары, гралі скрыпачы, працавалі заезны дом і карчма, завіхаліся карчмар Хведар Крупянькоў, Цярэшка -- Сяргей Выскварка, Арэсачка -- Ірына Гіль, Лявоніха -- Ірына Ягур, і, канешне, усюды паспявала аўтар і рэжысёр свята Галіна Жураўская. Больш бы такіх "рэжысёраў"!

Адзначым, што па-дзяржаўнаму аднесліся да свята любанскія ўлады, вядомы на ўсю Беларусь сарачынскі гаспадар Хвёдар Шаплыка.

Кажуць, што першы пасяленец над Арэсай быў так здзіўлены прыгажосцю гэтых мясцін, што ў захапленні вымавіў: "Люба!" Я таксама. Астатняе -- глядзіце сваімі вачамі на здымках.

**Васіль ЛІЦЬВІНКА.**

**НА ЗДЫМКАХ: салістка ансамбля "Мінскі гармонік" Тамара ЛІХАДЗІЕЎСКАЯ, якая была ўпрыгажэннем свята; у Шыпілавічах адбылося адкрыццё мемарыяльнай дошкі Паўлу ШПІЛЕЎСКАМУ.**

*КОЛЬКІ СЛОЎ ПРА ПАЭЗІЮ Я. МАЛЬЧЭЎСКАЙ*

# НЕСПАКОЙНЫ СІНІ ВЕЦЕР...

НЕ ТОЛЬКІ цікава, але і карысна часам кінуць позірк назад. І літаратура таксама не выключэнне. Праходзяць гады, і ранейшае, што ўспрымалася як істотнае і заканамернае, пачынае выглядаць у зусім іншым святле. Пацвярджэнне таму і першы зборнік вершаў Яўгеніі Мальчэўскай "Святло асенняе зярнят". У 1979 годзе ён увайшоў у калектыўную кнігу тагачасных пачаткоўцаў "Нашчадкі", выпушчаную выдавецтвам "Мастацкая літаратура". З першага ўжо, так сказаць, праграмнага твора "Блакіт на рыштаваннях", бадай, бачна, як аўтарка імкнулася выказаць сваё шчырае, непасрэднае стаўленне да рэчаіснасці і адначасова не абмінуць надзённага, сацыяльна значнага, на што яе, ды і іншых таксама, арыентавала крытыка.

Спачатку, канечне, тое, што ў душы, прыкмечанае пільным вокам, здатным улоўліваць прыгожае ў наваколлі, заўважаць яго і там, дзе іншым яно можа і не адкрыцца. Маўляў, нічога новага, усё звыклае. Ды не --

**Блакіт нябёс адбіўся**
**на вадзе,**
**Як у вачах**
**задумліва-трывожных.**
**Свой першы крок**
**нясмелы, асцярожны**
**Світаннем сінім**
**пачынае дзень.**

Далей паэтэса таксама паўстае чалавекам назіральным і адначасова ўмее ствараць непаўторныя вобразы, мысліць імі:

**Вясёла рукі кранаў**
**з вышыні**
**Праменні сонца**
**звонкія разносяць,**
**І стыне ў наваколлі**
**зыркі россып --**
**Электразварак сінія агні.**

Як шчодрыя россыпы, у "надзённым" высвечваліся творы, напісаныя шчыра і нязмушана. Лірычная гераіня іх -- вяскоўка, толькі вяскоўка ў горадзе. Яна і саромелася гэтай сваёй пастаяннай прывязанасці да зямлі, але яна і не магла пазбавіцца яе. Тады і нараджаліся вершы, у якіх нізкі балявы парог, а струны душы нацягнутыя, кранеш каторую -- і плыве мелодыя чуллівая, можа крыху і сентыментальная, але як цяжка без яе выстаяць на скразняковых дарогах часу:

**Напэўна, ў кожнага**
**па-рознаму**
**Жыве у прыпамінах дом...**
**А я заўсёды перад сном**
**Хаціну бачу пад бярозамі.**

Нарадзілася Я.Мальчэўская ў вёсцы Замошша Чашніцкага раёна. Скончыла Бабруйскі тэхнікум гумавай прамысловасці, а калі пісала гэтыя вершы, вучылася на філалагічным факультэце Беларускага дзяржаўнага універсітэта. Першым зборнікам прыйшла да чытача ўжо тады, калі настаўнічала. Вядома, тут яна таксама не выключэнне -- увайшлі ў кніжку вершы далёка не новыя. Многія з іх ці не з гадоў пачатку студэнцтва. Падрабязна паразважаць, пагаварыць пра іх захацелася па той прычыне, што з іх добра бачна, як паэтэса тарыла сваю сцяжыну ў жыццё і літаратуру, як са шматлікіх сцежак выбіралася яна на бальшакі. Талент выпрабоўваўся абставінамі, не заўсёды пазбягаў другаснасці, але талент не здаваўся.

Сваю другую кнігу "Залежнасць" Я.Мальчэўская чакала ажно дзесяць гадоў -- зборнік выпусціла тая ж "Мастацкая літаратура" ў 1989 годзе. А другая кніга для любога аўтара асабліва неабходная і чаканая. Звычайна, за рэдкім выключэннем, бо бывае, што такая доля выпадае на трэці зборнік ці нават пазнейшы, яна сведчыць, як талент далей рэалізуе сябе.

"Залежнасць" Я.Мальчэўскай -- гэта крок наперад, прытым значны, упэўнены. Перачытваючы вершы, паэтэсу ў многім не пазнаеш. Лірычная гераіня Я.Мальчэўскай -- жанчына, якая, сутыкнуўшыся са складанасцямі жыцця, не змірылася з імі, а годна змагаецца за свае прынцыпы, пункт гледжання, адстойвае права быць менавіта самой сабой. У вершах стала болей развагі, адначасова -- лірычнай прасветленасці, калі гаворка тычыцца выяўлення пачуццяў. "Дар сталасці" (назва аднаго з вершаў) -- і пэўнае падрахункаванне ("Цвілі, не пладаносячы, сады... Адчула я з запозненай віною, калі паўсталі проста за спіною мае гады, як доўгія рады"), і ўпэўненасць у лепшым ("Хістанняў зарастуць усе сляды. Я веру толькі раніцы вясновай, дзе зашумяць наноў першаасновай у пладаносных завязях сады").

І як сучасна гучаць развагі паэтэсы ў вершы "Саманадзейным"! Хутчэй за ўсё ён адрасуецца саманадзейным увогуле, якіх так шмат распладзілася цяпер у жыцці. Я ж яго ўспрымаю і больш канкрэтна. За саманадзейнымі бачу і некаторых маладых літаратараў, "пестуноў ад славы". Задумваюся над творчым лёсам і Я.Мальчэўскай, і іншых паэтаў, празаікаў, крытыкаў. Адзін шчыруе піша, у поце твару нараджае творы і ніяк не можа стаць членам Саюза пісьменнікаў. Іншага ж гатовы цягнуць туды. Не паспеў надрукаваць колькі твораў, а ўжо...

Баліць лірычнай гераіні Я.Мальчэўскай, яшчэ як баліць... І за ўласныя крыўды, і за чужыя. Гэтае абвостранае ўспрыманне болю надае яе паэзіі тыя якасці, без якіх літаратура -- не толькі паэзія -- страчвае свае чалавеказнаўчыя аспекты. Вывераласць радка вядзе да лаканічнасці, нешматслоўнасці. Як, напрыклад, у "Элегіі":

**-- Пакі... пакінута...**
**пакінуў, --**
**Праб"е дарожны**
**тэлеграф...**
**І дзве слязінкі успамінаў**
**Спаўзуць міжволі па шчаках.**

Як у вершы "І фарбы, і адценні ў жыцці...":

**Ідуць са мною побач**
**землякі,**
**Вядзе ў прастор**
**жыццёвая сцяжына.**
**А родны дом**
**-- маленькая айчына --**
**Глядзіць услед**
**з-пад матчынай рукі.**

Нават да афарыстычнасці: "Маёй маленькай вёскі людзі -- майго сумлення рубяжы" (верш "Ніякай ганьбай не лічыла..."). Зразумела, я не збіраюся сцвярджаць, што ў другой сваёй кнізе Я.Мальчэўская цалкам пазбавілася паэтычнай другаснасці, выпадковасці. Сустракаецца і гэта. Але ў каго яго няма? Ды толькі, калі чытаю (і перачытваю!) цыкл (на жаль, сама паэтэса яго не назвала), прысвечаны тэме мацярынства, забываюся пра ўсё гэта. Дастаткова таго, што ўражвае, узрушае... Што прымушае схіляць галаву перад мужнасцю жанчыны і яе любоўю да дзіцяці.

Ёсць у "Залежнасці" яшчэ адзін верш, на якім не магу не спыніцца. "О, неспакойны сіні вецер" -- так гучаць яго пачатковыя радкі. Падумаўшы, дык сваёй настраёвасцю ён як бы "выпадае" з шэрагу твораў, у якіх прысутнічае і ўладна напамінае аб сабе, дае знаць уся супярэчнасць і цвярозасць жыцця; паўсядзённасці. Але не толькі... Адначасова верш гэты і сведчанне, што ў тым жа жыцці ніколі нельга нешта расставіць па палічках. З аднаго боку -- вартае захаплення, ухвалення, з другога -- мройна-летуценнае, рамантычнае... Усё самым цесным чынам звязана, паяднана:

**О, неспакойны сіні вецер,**
**Што піў расу з паніклых траў,**
**Чаму ж ты не застаўся ў леце**
**Маіх прыгод, маіх забаў!**

**Няўжо абтрушанае лісце**
**Ці сум гаркавых ціхіх дрэў**
**Табе прыносяць больш**
**карысці,**
**Чым бесклапотнасці напеў!**

Час немагчыма спыніць, але з гэтым ніяк не хочацца змірыцца. І кожнае чарговае пакаленне прыходзіць да разумення незваротнасці пройдзенага, хоць і супрацьўляецца таму.

Неспакойны сіні вецер... Яго дыханне, упэўнены, і надалей будзе прысутнічаць у паэзіі Я.Мальчэўскай. Паэзія не зможа цалкам (і на шчасце) пазбавіцца маладой прасветленасці, узнёсласці, і адначасна яна будзе набываць яшчэ большую разважлівасць, засяроджанасць. Ды не тую, калі лірычная гераіня сіліцца заставацца сучаснай, а калі яна і на самай справе не можа не адчуваць сябе далучанай да часу.

**Алесь МАРЦІНОВІЧ.**

Але чым далей я чытаў, тым меней заставалася месца для недаверу, бо гаворка ў аповесці ішла не толькі пра Чарнобыль (хаця адначасова і пра яго), і я з велізарнейшай цікавасцю сачыў за тым, чым жа скончыцца ў рэшце рэшт гэта відавочная (і, дарэчы, адвечная) барацьба пісьменніка з матэрыялам (і менавіта з такім матэрыялам!), бо выказваць пра Чарнобыль прапісныя ісціны -- значыла няўхільна і непазбежна скочвацца ўніз, але тыя прапісныя ісціны, толькі іншага -- вышэйшага! -- кшталту, якія аднаўляла ў маёй свядомасці Таіса Бондар, казалі мне пра тое, што чытаю я не твор-аднадзёнку, а сапраўдны мастацкі твор.

Мне было цікава чытаць: не толькі як чалавеку, якому трапіў у рукі часопіс, але і як чалавеку, які па роду сваіх заняткаў мае справу са словам: за тым, пра што (і галоўнае -- як!) апавядала Таіса Бондар, бачылася велізарнейшая эрудыцыя аўтара, яго знаёмства з найлепшымі ўзорамі сусветнай літаратуры і філасофскай думкі (і не толькі знаёмства, але і творчае іх пераасэнсаванне і творчая перапрацоўка) -- прыгадваўся адначасова і Камю, і Фрэйд, але як гэта было не па-фрэйдаўску і як не па Камю: за гэтым сапраўды непадробным псіхааналізам, якім з'яўляецца ўся аповесць цалкам, стаяў не менш сапраўдны -- калі не большы! -- Боль: Боль за свой народ, Боль за кожнага чалавека, які жыве на нашай спакутаванай зямлі, -- і гэты Боль імгненнаператвараў чыста навуковы і дакладна вывераны псіхааналіз у высокае мастацтва. Але якасці, ці прыкметы, уласцівыя псіхааналізу, не страчваліся і жывым нервам праціналі аповесць, змацоўвалі яе, не дазвалялі распасціся.

І пакуль я чытаў, недзе там, у падсвядомасці, час ад часу ўзнікала і, прабіўшыся на паверхню, непакоіла думка: а ці не саб'ецца Таіса Бондар у сваім апавядзе на самы звычайны пералік тых бедаў, якія зваліліся на гераіню аповесці Параскеву, ці вытрымае аўтар тую высокую ноту, якую ўзяла напачатку? Непакоіўся таму, што псіхааналіз -- пры ўсіх яго вартасцях -- рэч няўдзячная і непрадказальная: таму, хто не ўмее ім карыстацца, ён помсціць імгненнай стратай чытацкага інтарэсу, бо тое, што цікава ўрачу або вучонаму, не зусім цікава простаму чалавеку, чытальніку. А паўторы, правільней, вяртанне да таго, з чаго пачаўся псіхааналіз (без гэтага немагчыма давесці яго да канца), а ў аповесці ўжо не паўторы, а, як у музыцы, вяртанне да адной і той жа тэмы (і чытач пазнае і прыкмячае яе адразу), -- якраз і хаваюць у сабе небяспеку і здольны зусім закрэсліць твор. Але гэтага, дзякуй Богу, не здарылася: Таіса Бондар толькі ёй вядомым чынам здолела выкарыстаць іх -- зрабіла своеасаблівым мастацкім прыёмам, кожны раз знаходзячы ў гэткім паўторы нешта новае, і я ад душы пазайздросціў яе пісьменніцкаму майстэрству, бо ўтрымаць увагу (хай і ў такой параўнаўча кароткай аповесці) менавіта пры такім творчым прыёме, як псіхааналіз, -- задача няпростая.

Пераказваць таленавіты твор -- занятак, як вядома, пазбаўлены сэнсу. Калі ў Талстога аднойчы спыталі, пра што яго новы раман "Ганна Карэніна", пісьменнік выказаўся прыкладна так: "Каб адказаць на ваша пытанне, я мушу... зноў напісаць тую самую "Ганну Карэніну".

І "Ганну Карэніну" Талстога, і "Імем Айца і Сына" Таісы Бондар лепей чытаць, а не пераказваць. А яшчэ лепей -- перачытваць. Не адзін раз. І не толькі чытачам -- бо за адно прачытанне не ўхапіць таго, пра што здолела сказаць Таіса Бондар, -- але і даследчыкам літаратуры, бо за апошнія дзесяць ці нават дваццаць гадоў гэта аповесць -- другі па ліку маштабны твор, які з цягам часу набудзе яшчэ большую маштабнасць.

Чым кіруемся мы пры вызначэнні гэтай маштабнасці? Як заўсёды, толькі сваім адчуваннем: калі яно на працягу гадоў не губляецца, значыць твору ўласціва вышэйпамянёная якасць.

З Васілём Быкавым усё ясна. А з Таісай Бондар? Хіба пасля публікацыі яе твора прайшло столькі часу, калі можна казаць, што "Імем Айца і Сына" бясспрэчна застанецца дасягненнем беларускай літаратуры? Адметнасць маштабных твораў у тым, што іх пазнаеш адразу, як адразу пазнаеш талент. З гэтай аповесцю адбылося тое самае, што адбылося некалі са "Знакам бяды" Быкава: пасля доўгіх гадоў чакання я зноў чытаў твор, які ўзрушыў мяне чысцінёй, высокім напалам пачуцця і незвычайнай шчырасцю. Твор, які лёг на сэрца так, як кладзецца раса на траву: нячутна і адначасова гаюча. Твор, які прымусіў па-новаму зірнуць на беларускую літаратуру, якая, нягледзячы ні на якія неспрыяльныя стасункі, не памірае. Твор, калі мне другі раз у жыцці захацелася напісаць аўтару ліст.

Напісаць не паспеў: перашкодзілі справы і надзённыя клопаты. Але, будучы ў Мінску і ўбачыўшы неяк Таісу Мікалаеўну, набраўся смеласці і, як умеў, сказаў пра тое, чым узрушыў мяне яе неардынарны твор.

Я не чакаў, што мае няхітрыя словы так незвычайна падзейнічаюць на спадарыню Таісу.

-- Ведаеце, мне даўно ніхто не казаў такога. У вочы! -- нечакана пачырванеўшы, неяк стрымана і адначасова сарамліва вымавіла Таіса Мікалаеўна.

Мо гэта яе нечаканае прызнанне і прымусіла мяне ўзяцца за пяро. А ў той момант, трохі разгубіўшыся ад яе слоў, я наяве ўбачыў і адчуў, што стаіць за гэтай яе хвіліннай разгубленасцю -- якая бездань пачуццяў і якая нязломная воля.

І хаця ўсё гэта падспудна адчувалася яшчэ пры чытанні аповесці, цяперака я на свае вочы пераканаўся, колькі мужнасці трэба мець, каб заставацца самім сабой, пераканаўся ў тым, як нялёгка было Таісе Бондар напісаць гэты твор: колькі сіл аддала яна свайму, напэўна, самаму дарагому дзіцяці -- аповесці "Імем Айца і Сына".

І мне падумалася, што толькі чалавек, для якога праўда і шчырасць -- норма паводзін не толькі ў літаратуры, але і ў жыцці, здольны напісаць такі ўзрушлівы і адметны твор. Твор, які нарадзіўся ў душы, выплюхнуўся з яе, намоцна пераплёўшыся з інтэлектам, але не пазбавіўся праз тое Болю, якім мы жывем, якім дыхаем і які ачалавечвае нас. Больш моцнага, больш спагадлівага ўздзеяння на нашу душу, напэўна, і не бывае.

Хіба не таму мы яшчэ не памерлі? Як нацыя!

**Анатоль КІРВЕЛЬ.**



СПАДЧЫНА

# СМАЛЯНЫ

## (НАРЫС З ГІСТОРЫІ ВЁСКІ)

### БАЦЬКІ І ДЗЕЦІ

За трэцюю жонку князь Павел-Караль Сангушка абраў сабе маладзенькую Барбару з занепалага шляхецкага роду Дунінаў. Нягледзячы на катэгарычную нязгоду дачкі і сталы век жаніха, бацька Барбары з радасцю прыняў прапанову высокага саноўніка і магната. Пасля выхаду замуж Бог адарыў Барбару шматлікім патомствам. Яна нарадзіла 11 дзяцей, пяцёра з якіх сканалі ў малалецтве. Пасля смерці князя Паўла Барбара перабралася жыць да сваёй дачкі Крысціны ў Варшаву, дзе набыла шырокую вядомасць сваёй дабрачыннасцю і набожнасцю. Яна ўзначаліла вядомую на ўсю Варшаву дабрачынную суполку «Міляя тройца святых паннаў», на сходы якой неадночы наведваліся кароль Станіслаў Аўгуст Панятоўскі, дыпламаты ды ўвесь прыдворны свет. Барбара актыўна займалася рэлігійнай дабрачыннасцю і ў сваіх усходніх уладаннях. У 1769 годзе ў мястэчку Талачыне яна заснавала базыльянскі кляштар, для якога праз 10 гадоў узвяла мураваную царкву.

З трох сыноў Барбары Сангушкавай старэйшы Юзаф гаспадарыў у Любартаве, малодшы Януш парадкаваў свае маёнткі ў Крымянецкім старостве ды лічыўся за мяжкой, сярэдні Геранім прысвяціў сябе вайсковай кар'еры, стаў генералам каронната войска ды вальнскім ваяводам. Магчыма, дзякуючы ўплыву пабожнай маці або шукаючы прыхільнасці нябеснага патрона, князь Геранім Сангушка скіраваў свой позірк на старажытныя Смаляны, спадчыннікам якіх ён з'яўляўся. У 1786 годзе ён выставіў сваім коштам у мястэчку пры тутэйшым дамініканскім кляштары мураваны касцёл — цудоўны ўзор архітэктуры віленскага барока. Яшчэ і сёння, нават пазбаўлены даху ды занядбаны, храм, апошнім насельнікам якога была ўладкаваная тут у 1930-х гадах машынна-трактарная станцыя, нясе на сабе прыкметы мастацкай дасканаласці і характара. Паўкалоны карынфскага ордэра, што разбіваюць фасад на тры злёгку ўвагнутыя паверхні, падкрэсліваюць як стромасць ды вертыкальную накіраванасць усяе пабудовы, так і пластычную мяккасць ліній гарызантальных карнізаў. Рысы пэўнага падабенства гэты касцёл мае з базыльянскай царквой у Талачыне. Цалкам верагодна, што Сангушкі наймалі аднаго архітэктара або мелі адзін праект на ўзвядзенне абодвух храмаў. Розніца ў дэкаратыўным аздабленні пабудоў адносіцца хутчэй да справы густаў маці і сына, а таксама можа быць вытлумачана спецыфікай, так бы мовіць, зыходных умоў: Талачынская царква ўзводзілася на падмурках старога храма, што быў заснаваны яшчэ ў 1604 годзе Л. Сапегам.



Прыкладна адначасова з узвядзеннем мураванага дамініканскага касцёла ў Смалянах была пабудавана драўляная уніяцкая Спаса-Праабражэнская царква, што мела шчасце ў добрым стане захавацца да нашага часу. Сёння яна ўважаецца за цікавы прыклад увасаблення эстэтычнай традыцыі барока ў драўляным дойлідстве краю. Да таго ж, у царкве захавалася размалёўка XVIII стагоддзя — выявы 12 апосталаў у поўны рост на роўніцы граняў купала.

Апроч згаданай у Смалянах у гэты час было яшчэ некалькі драўляных уніяцкіх цэркваў, звесткі аб якіх да гэтага часу хаваюцца адно толькі сярод дакументаў архіўных збораў.

### ПРА СТАЛЁВЫЯ НАЖЫ ДЫ КУПЕЦКІЯ ДАРОГІ

На пачатку XIX стагоддзя па "заходніх правінцыях" Расейскай імперыі падарожнічаў са сталічнага Пецярбурга Васіль Севяргін. Свае дарожныя ўражанні ён занатоўваў у дзённіку, які пазней выдаў. У Смаляны шаноўны навукоўца, відаць, не трапіў. Аднак у яго нататках сустракаем наступны запіс: "У Талачыне бачыў я цудоўныя сталёвыя нажы і відэльцы са сталёвымі чаранамі. Мяне запэўнівалі, што робяць іх у Смалянах (...), дзе дзеля гэтага жалеза скупляюць. Пара гэтых нажоў каштуе 35 капеек меднымі грашыма". Такое назіранне прафесара было, безумоўна, выпадковым і ні ў якім разе не характарызавала спецыфіку мясцовых промыслаў. Смалянскія кірмашы нічым асаблівым не вызначаліся, хіба што толькі адносна шырокім выбарам ільну, пянькі ды скур, якія экспартаваліся ў суседнія губерні.

Размяшчэнне Смалян на вялікай купецкай дарозе з Оршы, Магілёва і Талачына на Віцебск сталася прычынай сапраўднага няшчасця для жыхароў мястэчка падчас вайны 1812 года. Апроч амаль несупыннага перамяшчэння войскаў, у фальварку Смаляны быў размеркаваны вялікі імператарскі абоз з трыма сотнямі коней, двума камендантамі, рознага кшталту прыдворнымі ды немалой колькасцю вояў конных ды пешых. За тыя тры месяцы, што французскі абоз прастаяў у Смалянах, коньмі і людзьмі было з'едзена ўсё, што толькі магчыма, як у самым фальварку, так і ў яго бліжэйшых ды дальніх ваколіцах. Да таго ж, паны каменданты і прыдворныя пад страхам строгай вайсковай экзекуцыі штотыднёва спаганялі з жыхароў мястэчка па 150 рублёў асігнацыямі на каву, гарбату ды цукар. У выніку гэткай навалы з 326 душ "мужеска пола", што лічыліся па апошняй даваеннай рэвізіі Смалян, 157 душ памерлі ад хвароб ды разышліся ў невядомых накірунках. За час вайны ў Смалянах была спалена адна уніяцкая царква разам з усім начыннем.

Людміла ХМЯЛЬНІЦКАЯ.

НА ЗДЫМКУ: магіла Тамаша ЗАНА ў Смалянах..

---

**ПАВАЖАНЫЯ НАШЫ ЧЫТАЧЫ!**

**Доўгі час у нас не было адказу на ваша пытанне, як падпісацца на "Голас Радзімы" ў Англіі, ЗША або іншай краіне свету. І вось нарэшце добрыя весткі. Фірма East View Publications, Inc. будзе займацца падпіскай і распаўсюджваннем газет, часопісаў і кніг, што выдаюцца ў краінах былога СССР. Менавіта гэта кампанія пастаўляе перыёдыку і кнігі для Бібліятэкі Кангрэса ЗША, што сведчыць аб яе аўтарытэце. Шаноўныя сябры! Звярніце ўвагу на тэлефоны і адрас:**

**EAST VIEW PUBLICATIONS, INC**
**3020 Harbor Lane North,**
**MINNEAPOLIS, MN 55447, USA**
**Toll-free in USA 1-800-477-1005**
**Tel: 612 550 0961 FAX: 612 559 2931**
**E-mail eastview Qmr. net**

**Напішыце, і Вам дапамогуць стаць падпісчыкам газеты "Голас Радзімы" на 1994 год.**

---

*Беларускі дзіцячы фонд, дабрачынныя фонды "Мы – дзецям" і "Дзецям Чарнобыля" аб'явілі з 15 снежня 1993 года сваю калядную акцыю "Хворым дзецям – нашы сэрцы". Яна прадоўжыцца месяц. Задача пастаўлена вельмі ўдзячная: наведаць з калядымі падарункамі дзяцей-інвалідаў, дзяцей-сірот былых афганцаў і загінуўшых міліцыянераў, а таксама пабываць у бальніцах, дзе Новы год будуць сустракаць хворыя дзеці. Усе жадаючыя прыняць удзел у гэтай акцыі могуць прапанаваць свае паслугі па тэлефонах: 36-62-67, 36-62-14.*

**220029, Мінск, пр. Скарыны, 31. Грашовы рахунак Беларускага дзіцячага фонду ў гарадскім аддзяленні Белбізнесбанка 707801 (код 764) з адзнакай "Калядны падарунак". Валютны рахунак 00067901 у Белзнешэканомбанку, г. Мінск.**

*Адгукніцеся, добрыя сэрцы!*

---



---

**Выканкам Цэнтральнай Рады БСДГ праз газету "Голас Радзімы" шчыра дзякуе супрацоўнікам Беларускай рэдакцыі радыё "Свабода", якія ахвяравалі сродкі на будаўніцтва помніка М. Ткачову.**

| | |
|---|---|
| В. Станкевіч | 100 нямецкіх марак |
| Ю. Сянькоўскі | 50 нямецкіх марак |
| М. Іваноў | 50 нямецкіх марак |
| К. Бандарук | 50 нямецкіх марак |
| В. Лаеўская | 50 нямецкіх марак |
| В. Фрэйдкін | 50 нямецкіх марак |
| Б. Андрусышын | 50 нямецкіх марак |
| А. Левіна | 50 нямецкіх марак |
| Л. Урбан | 50 нямецкіх марак |

Рэдактар Вацлаў МАЦКЕВІЧ

ЗАСНАВАЛЬНІК:
Беларускае таварыства па сувязях з суайчыннікамі за рубяжом (таварыства "Радзіма").



НАШ АДРАС:
220600, МІНСК, ПРАСПЕКТ Ф. СКАРЫНЫ, 44.
ТЭЛЕФОНЫ: 33-01-97, 33-02-80, 33-03-15, 33-16-56, 33-07-82.

Пазіцыя рэдакцыі і аўтараў, матэрыялы якіх друкуюцца на старонках "Голасу Радзімы", не заўсёды супадаюць.

Газета набрана і звярстана ў камп'ютэрным цэнтры рэдакцыі газеты "Вечерний Минск". Аддрукавана ў друкарні "Беларускі Дом друку". Індэкс 63854. Зак. 1719. Падпісана да друку 6. 12. 1993 г.